


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

22 мая 2015 года №21 (1047)




**Віляйчане розных узростаў праехаліся па горадзе і наваколлі на роварах**

старонка 2



**Фестываль "Час жыць" прайшоў у "Халадзечне"**

старонка 5



**Ігар Кіцікаў: як зрабіць вандроўку за мяжу незабыўнай**

старонка 20-21

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Амфітэатр запрашае на танцы пад аркестр

МАЛАДЗЕЧНА

У нядзелю, 24 мая, у маладзечанскім амфітэатры адбудзецца танцавальны вечар "Майскі вальс". Жыхароў і гасцей горада запрашаюць патанцаваць пад гукі духавога аркестра. Усіх ахвотных будуць чакаць на пляцоўцы каля амфітэатра. пачатак праграмы у 17 гадзін. Уваход свабодны.

**Надзея СТАНКЕВІЧ, аддзел па інфармацыйнай рабоце Палаца культуры Маладзечна.**



# Як "Тысяча вакансій" пазбавіла віляйчан 400 тысяч рублёў

ВІЛЕЙКА

**Адной з ахвяр бізнесу на ахвотных знайсці працу стала жыхарка Вілейкі.**




На вашым жаданні знайсці добрую працу могуць нажыцца.

Фота Насці РОЎДЫ.

Яна 15 мая звярнулася ў міліцыю з заявай, у якой прасіла разабрацца, ці законныя дзеянні індывідуальнага прадпрымальніка.

У паштовай скрыні жанчына знайшла рэкламную ўлётку з прапановамі працаўладкавання. У ёй абяцалі "самыя лепшыя вакансіі" – ажно больш за тысячу – і высокую зарплату. Хочаш, працуй вахтавым метадам. А хочаш – дапамогуць знайсці падпрацоўку дома. Дастаткова патэлефанаваць па пэўным нумары. Расцэнкі не ўказаныя.

Сын жанчыны якраз шукаў працу. Некалькі разоў тэлефанаваў, гаварыў нядоўга. Яму далі нумары тэлефонаў некалькіх арганізацый. Паўсюль адказалі, што месцаў для працаўладкавання ўжо няма.

Неўзабаве сям'ю чакаў непрыемны сюрпрыз: за кошт гэтых званкоў рахунак за паслугі сувязі павялічыўся на 400 тысяч рублёў, расказаў часовы выканаўца абавязкаў намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч**.

Трапіць на нумары з шалёнымі расцэнкамі можна, не толькі пачытаўшы ўлётку. У інтэрнэце таксама хапае падобных аб'яў.

Людзі ж, якія скарысталіся паслугамі падобных службаў, дзеляцца, што часта там бяруць вакансіі проста з адмысловых сайтаў.

## Да 600 тысяч рублёў за хвіліну

Непаразуменні з платнымі даведачна-інфармацыйнымі службамі ўзнікаюць пастаянна. Гэта і зразумела, бо званок у такія службы можа каштаваць часам да 600 тысяч рублёў за хвіліну.

Белтэлекам ужо не раз раіў уважліва вывучаць інфармацыю аб умовах такіх паслуг.

**Паслугі платнымі даведачна-інфармацыйнымі службамі прапануюцца з выкарыстаннем трохзнакавага нумара альбо доўгіх нумароў, якія пачынаюцца з 8-902 ці 8-602-60. Тарыфы ўладальнікі службаў устанаўліваюць самі.**

## Тры секунды, каб пакласці трубку

Уладальнік платнай службы абавязаны размясціць галасавое паведамленне на працягу нетарыфікуемага (які не аплачваецца) інтэрвалу. Таксама даць тры секунды на тое, каб абанент змог пакласці трубку. Павінны быць указаны кошт званка або паведамленне, што паслуга платная, а таксама паведамленне "Застаючыся на лініі, Вы даяце згоду на аплату паслугі".

Калі абанент праслухаў паведамленне і адразу паклаў трубку, аплата не павінна налічвацца. Калі ж застаўся на лініі, то адлік пайшоў.

У нашым выпадку, па словах жанчыны, які тарыф за хвіліну, разабраць па тэлефоне было цяжка. Таму, калі ўдасца даказаць, што ўладальнік службы не выканаў вышэйпералічаныя правілы, карыстальнік мае права патрабаваць вяртання грошай.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Пры нязгодзе з выстаўленым рахункам па паслузе платнай даведачна-інфармацыйнай службы і адмове аплаты паслуг, абанент можа аплаціць толькі паслугі Белтэлекама. У гэтым выпадку тэлефон не адключаць. Паводле Белтэлекама.

АКЦЫІ

# Вілейшчыну раскручваюць роварамі

## Віляйчане ад 17 да 77 год праехаліся на роварах, каб паказаць турыстычны патэнцыял краю

ВІЛЕЙКА

**Не просты, а экалагічны велапрабег прайшоў 15 мая. Удзельнікамі сталі больш за трыццаць мясцовых жыхароў і гасцей горада. Іх прафесіі і ўзрост розныя: ад адзінаццацікласніка да 77-гадовага пенсіянера.**



Фота забяспечана Вікторыяй АПІШКЕВІЧ.

Таццяна Цітуленка, старшыня праўлення "ЗОВіК", падчас велапрабегу па Вілейцы.

Праводзіўся велапрабег у межах тыдня ўстойлівага развіцця. Арганізавала яго грамадскае аб'яднанне па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага раёна "ЗОВіК" пры падтрымцы райвыканкама.

– Адна з галоўных задач прабегу – звярнуць увагу на турыстычны патэнцыял Вілейшчыны, паказаць шырокія магчымасці нашага рэгіёна ў гэтым напрамку. Таксама разлічваем, што праект унясе ўклад у развіццё роварнага турызму на Вілейшчыне і інфраструктуру месцаў адпачынку гараджан, – распавяла старшыня праўлення "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**.

Удзельнікі пазнаёміліся з тым, як развіваецца інфраструктура для раварыстаў, як ажыццяўляюць праекты ачысткі Пляснянкі і па раздзельным зборы смецця. Наведалі "Вілянін хутар", дзе дырэктар краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар** распавёў пра гісторыю яго стварэння і традыцыі вясельных абрадаў. Пабывалі ў музеі яйка Дома рамёстваў і на Віленскім вадасховішчы.

**– Не ўсе віляйчане ведалі, што ў нас ёсць такія адметныя аб'екты, – кажа Таццяна Цітуленка. – Адзін з удзельнікаў прабегу так здзівіўся ў музеі яйка! Казаў, што цяпер ведае, куды іншаземных гацей весці.**

– Экавелапрабег – гэта магчымасць прыцягнуць увагу да такіх пытанняў, як ахова навакольнага асяроддзя, прасоўванне здаровага ладу жыцця, захаванне культурнай спадчыны, узмацненне ролі мясцовых партнёраў у планаванні і развіцці сваіх тэрыторый. Менавіта гэтыя напрамкі Еўрапейскі Саюз найбольш актыўна падтрымлівае ў Беларусі ў межах сваіх праграм і праектаў, – сказаў каардынатар праектаў Прадстаўніцтва Еўрапейскага Саюза **Аляксей Вавохін**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Зоя Клімовіч: "Газета дапамагла набыць новых кліентаў"

МАЛАДЗЕЧНА

Пастаянная чытачка газеты гаспадыня вясельнага салона "КаханаЯ" не магла ўтрымацца сваіх пачуццяў і выказалася пра "Рэгіянальную газету".

– Пачала выпісваць газету амаль адразу пасля яе заснавання, – расказвае Зоя Іванаўна. – Яна шмат чым адрозніваецца ад іншых выданняў – адразу чапляе цікавымі матэрыяламі, аздабленнем. Чытаю ад першай да апошняй старонкі, іншыя газеты перагортваю ў пошуку цікавых матэрыялаў.

Перш за ўсё паважаю выданне за беларускамоўнасць, захаванне традыцый, нашай гісторыі. Матэрыялы ў газеце паказваюць жыццё такім, якое яно ёсць, а не прыхарошанае.

Падабаецца, што на фотаздымках у газеце звычайныя людзі, а не глянцавыя.

У газеце ёсць цікавыя формы супрацоўніцтва з рэкламадаўцамі, напрыклад, тэматычныя старонкі. У мінулым нумары я паўдзельнічала ў праекце, прысвечаным вяселлям.

**І сапраўды рэклама дзейсная, большая колькасць людзей пачала цікавіцца вясельнымі ўборамі, уборамі на выпускныя.**

**Галіна СІНІЦА.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Віляйчане ўстанавілі стэнд у Камене

ВІЛЕЙКА

**У суботу, 16 мая, Вілейская суполка Таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага арганізавала ўстаноўку інфармацыйнага стэнда ў вёсцы Камена Даўгінаўскага сельсавета.**




Фота забяспечана Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Каля новага стэнда ў Камене Павел Хаванскі, злева, і Дзмітры Хаценчык.

Сярод удзельнікаў былі сябры суполкі **Дзяніс Канецкі, Алесь Наркевіч, Дзмітры Хаценчык, Павел Хаванскі,** а таксама архітэктар і краязнаўца **Анатоль Капцюг.**

Нягледзячы на халоднае і пахмурнае надвор'е, энтузіясты выехалі ад самага ранку.

Выбралі зручнае месца для ўстаноўкі: і каб бачна было, і зразумела, пра што менавіта інфармацыя.

Ужо на месцы закончылі манціроўку – і інфармацыйны стэнд пра гісторыю Камена і яго славутасці ўстаноўлены. Цяпер гэта месца больш абуладкаванае для турыстаў і шукальнікаў гістарычных мясцін.

– Шчыра дзякую усім тым, хто падтрымаў ідэю і далучыўся да падрыхтоўкі і вырабу стэнда. Толькі аб'яднаўшыся мы можам рабіць такую годную справу, – падсумаваў кіраўнік суполкі Дзяніс Канецкі.

Па дарозе дадому ўдзельнікі наведалі некалькі знакавых мясцін, паглядзелі на стан помнікаў, паразважалі аб будучых планах па паляпшэнні стану культурных аб'ектаў.

**Вольга КАРЭЦ, навуковая супрацоўніца Вілейскага краязнаўчага музея.**



Інжынер-метролаг Марына Казлова ў лабараторыі геаметрычных вымярэнняў тэстуе будаўнічы прыбор.

Фота Наталлі ТУР.

● ПРАФЕСІІ

# Метролагі – гэта не тыя, хто будуе метро і прадказвае надвор’е

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечанскім цэнтры стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі, вядома, надвор’е вам не падкажуць, а вось праверыць любы прыбор на адпаведнасць яго стандартам – лёгка.**

Экскурсію па прадпрыемстве зладзіў для “Рэгіянальнай газеты” начальнік аддзела **Пётр Палын**:

– Многія людзі нават не здагадваюцца, як шмат у нашым жыцці дакладных лічбаў і вымярэнняў. Нават калі толькі нарадзіўся чалавек і ў яго пакуль няма імені, а яго ўжо ўзважылі, рост і тэмпературу памералі. Вось якраз тым, каб вымярэнні былі дакладныя, прыборы працавалі як гадзіннік, наш цэнтр і займаецца.

У цэнтры працуюць некалькі лабараторый: геаметрычных вымярэнняў, механічных, электрычных, фізіка-хімічных, цеплатэхнічная. У гэтых лабараторыях правяраюць прыборы, якія выкарыстоўваюцца ў розных сферах жыцця.

У цэнтр звяртаюцца будаўнічыя фірмы, каб правяраць нівеліры, грунтавгі і іншыя будаўнічыя прылады. Гандлёвыя прадпрыемствы раз на год абавязаныя прыносіць у цэнтр на праверку вагі. ДАІ, аўтобусны парк і іншыя арганізацыі, дзе працуюць кіроўцы, прыносяць сюды алкатэстары. Медыцынскія ўстановы – танометры. Звяртаюцца і гаспадары станцый тэхабслугоўвання. Яны правяраюць манометры. Запраўкі правяраюць калонкі, аўтамабілісты – спідометры.

Працэдура праверкі прыбораў на адпаведнасць стандартам уяўляе сабой цэлы механізм. Спецыялісты цэнтра, якіх называюць правяральнікамі, пры дапамозе дарагіх і дакладных прыстасаванняў старанна правяраюць прыборы. Затым вынік праверкі яны заносяць у пратакол, у якім пазначаецца, ці прыдатны прыбор для далейшага выкарыстання.

Калі мы былі ў цэнтры, на подпіс да Пятра Міхайлавіча прынеслі пяць пратаколаў аб праверцы лічыльнікаў вады. І ні адзін з іх не прайшоў праверкі.

Таму, калі вы не ўпэўненыя ў тым, ці дакладна працуюць вашы лічыльнікі, танометры і іншыя прыборы, вы можаце смела прыносіць іх сюды.

Праверка танометра абыдзецца ў 50 тысяч рублёў. Але, як кажа Пётр Палын, здароўе даражэйшае.

Акрамя прыбораў, якія правяраюцца ў цэнтры, інжынеры-метролагі выязджаюць і ў камандзіроўкі.

– Пагадзіцеся, цяжка да нас прывезці запраўчную калонку, – жартуе Пётр Міхайлавіч.

А калі сур’ёзна, спецыялісты цэнтра правяраюць аўтамабільныя і нават чыгуначныя вагі.

– У нас на такія праверкі выязджаюць два ЗІЛы, на якіх пагружаныя 8 гірак. Кожная па 500 кілаграмаў.

А ёсць вагі, якія адчувальныя нават да паветра. Адкрыеш шкляны каўпак, а яны ўжо і паказалі пэўную вагу.

Таму ў лабараторыях захоўваецца пэўная тэмпература і вільгаць. Усе дзеля таго, каб былі ўпэўненыя, што вы гаспадар самага дакладнага прыбора.

Дарэчы, жарты пра метролагаў – гэта зусім не жарты.

– Бывала, нам тэлефанавалі, пыталіся, якое заўтра будзе надвор’е. Ды вось, мы не метэаролагі. А яшчэ пытаюцца: вы будуеце метро? Адказваю, не! Мы метролагі. Ад грэчаскага мера і навука. Спецыялісты, якія займаюцца вымярэннямі і робяць гэта па навуцы.

**Наталля ТУР.**

## Нацыянальныя эталоны Беларусі

1. Адзінак: часу – секунды, частаты – Герца і шкалы часу
2. Адзінкі тэмпературы – кельвіна
3. Адзінкі сілы святла і асветленасці
4. Адзінкі плоскага вугла – градуса
5. Адзінкі магнітнай індукцыі – тэсла ў дыяпазоне (0,05-2,0) ТЛ
6. Каардынатаў колеру і спектральных каэфіцыентаў накіраванага прапускання і дыфузнага адлюстравання ў дыяпазоне даўжынь хваль (0,2 - 2,5) мкм
7. Адзінкі масы ў дыяпазоне 1 мг - 1 кг
8. Адзінкі напружання – вольта
9. Адзінак кермы ў паветры і магутнасці кермы ў паветры
10. Адзінкі малярнай долі кампанентаў у газавых сумесях
11. Адзінкі малярнай долі кампанентаў прыроднага газу ў газавых сумесях
12. Адзінкі гукавога ціску ў паветраным асяроддзі ў дыяпазоне частот 20 Гц - 20 кГц
13. Адзінкі даўжыні – метра ў галіне атэстацыі крыніц выпраменьванняў і сродкаў вымярэнняў даўжынь хваль даўжынёй 0,63 мкм
14. Адзінкі электрычнай магутнасці
15. Адзінкі напружання пераменнага току ў дыяпазоне частот 10 Гц - 2 Ггц
16. Адзінкі спектральнай адчувальнасці прыёмнікаў выпраменьвання
17. Адзінкі электрычнай ёмістасці
18. Адзінкі малярнай долі атмасферных экалагічна небяспечных кампанентаў

**Паводле Беларускага дзяржаўнага інстытута метралогіі**

ЛІЧБА НУМАРА

**18** нацыянальных эталонаў

Менавіта столькі эталонаў дзяржаўнага значэння зарэгістравана ў Інстытуце метралогіі

Паводле РУП “БелДІМ”

Інфаграфіка Наталлі ТУР.

| Курсы валют НБ РБ | 14.05 руб. | 21.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 14 160,00 | **14 290,00** |
| Еўра | 15 920,00 | **15 930,00** |
| Злоты | 3 919,20 | **3 916,04** |
| Расійскі рубель | 281,50 | **287,50** |
| Грыўня | 693,20 | **670,77** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 20.05** | | |
| Еўра | 15800/16070 | **15700/15940** |
| Долар ЗША | 14100/14300 | **14140/14300** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 13.05 Цана руб. | 20.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **142000** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 80000 | **80000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 36900 | **36900** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **48000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12900** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4900** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 8500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 14900 | **13900** |
| Морква, 1 кг | 17900 | **16900** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **6500** |
| Радыска, 1 кг | 19900 | **21500** |
| Лімоны, 1 кг | 27900 | **33900** |
| Апельсіны, 1 кг | 16900 | **16900** |
| Мандарыны, 1 кг | 26900 | **26900** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 23000 | **23000** |
| Ківі, 1 кг | 29900 | **28000** |
| Памідоры, 1 кг | 27900 | **26900** |
| Агуркі, 1 кг | 24900 | **19900** |
| Перац, 1 кг | 59900 | **45900** |
| Вінаград, 1 кг | 37900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 19900 | **20900** |
| Яблыкі, 1 кг | 13500 | **13500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29900 | **28500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 11900 | **12900** |
| Сала, 1 кг | 65000 | **65000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |




Мужчына ўдарыў госцю нажом у спіну. Калі зразумеў, што яна памерла, павёз цела ў сквер і проста кінуў яго.

● КРЫМІНАЛ

# Паклікаў двух знаёмых, каб пазбавіцца ад цела

МАЛАДЗЕЧНА

**Цела 48-гадовай жанчыны знайшлі ў скверы непадалёк ад Старога Места ў Маладзечне 12 мая каля 8:30 раніцы.**

У ходзе следства, як распавёў "Рэгіянальнай газеце" следчы Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**, высветліліся некаторыя падрабязнасці.

Вечарам 11 мая жанчына прыйшла ў госці да свайго знаёмага.

Там пасля распівання спіртных напояў у іх узнік канфлікт. 46-гадовы гаспадар дома ўдарыў сваю знаёмую нажом у спіну.

Тая пайшла і прылягла на ложак. Мужчына не заўважыў, калі ёй стала блага. А звярнуў увагу на госцю, каля тая ўжо была нежывая.

Пасля гэтага мужчына паклікаў двух сваіх знаёмых. Тыя дапамаглі пагрузіць цела ў тачку і вывезці ў сквер, дзе проста яго кінулі.

У цяперашні час падазраваны затрыманы, узбуджаная крымінальная справа.

**Наталля ТУР.**

# Трое навучэнцаў маладзечанскага калежда збілі мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося ўвечары 21 красавіка.**

37-гадовы маладзечанец выйшаў на ганак пад'езда свайго дома па вуліцы Будаўнікоў пакурыць.

Як потым ён патлумачыў следчым, узяў з сабой толькі адну цыгарэту.

У гэты час побач з гэтым домам праходзілі трое хлопцаў.

Яны папрасілі ў мужчыны закурыць. Той адказаў, што мае пры сабе толькі адну цыгарэту. Тады маладыя людзі нанеслі мужчыну некалькі ўдараў па верхняй частцы тулава, па галаве.

Мужчына паспрабаваў зайсці ў пад'езд. Але адзін з кампаніі дастаў газавы балончык і пырснуў яму ў твар.

– На сённяшні дзень супраць навучэнцаў Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа, якім 17, 18 і 19 гадоў, узбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Хуліганства", – распавёў "Рэгіянальнай газеце" следчы Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

**Наталля ТУР.**

● СЛУЖБА 101

# На Вілейшчыне на пажары выратавалі двух чалавек

ВІЛЕЙКА

**Выцягнулі іх з лазні вясковец і выратавальнік, які прыехаў да бацькоў.**

Прызначаная для пражывання лазня гаргла ў вёсцы Мацькаўцы Ільянскага сельсавета. Пажар адбыўся каля сямі гадзін вечара 16 мая.

Дым заўважыў кіроўца пажарнага аварыйна-выратавальнага паста вёскі Баруны на Ашмяншчыне **Віталь Коўшык**, які гасціў у бацькоў. Ён выклікаў выратавальнікаў і да іх прыезду разам з вяскоўцам выцягнуў з лазні двух чалавек – 25-гадовую жанчыну і 57-гадовага мужчыну.

Брыгада "хуткай дапамогі" шпіталізавала іх з папярэднім дыягназам "атручэнне прадуктамі гарэння".

У выніку агонь знішчыў лазню. Прычыну пажару ўстанаўліваюць, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш.**

**Аддзел інфармацыі.**

● СЛУЖБА 101

# "Мерседэс" урэзаўся ў дрэва

ВІЛЕЙКА

**Каля васьмі гадзін раніцы 15 мая ля вёскі Ручавыя Вілейскага раёна адбылася аварыя.**

31-гадовы кіроўца легкавога аўтамабіля "Мерседэс" не справіўся з кіраваннем. Машына з'ехала ў кювет і ўрэзалася ў дрэва. Кіроўца не пацярпеў.

Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях з дапамогай гідраўлічнага інструмента з аўтамабіля выцягнулі 39-гадовую пасажырку. Яна з дыягназам "удар пазваночніка" шпіталізаваная ў траўматалагічнае аддзяленне Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы.

**Паводле абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях.**

● КРЫМІНАЛ

# Збіў спадарожніка і забраў у яго тэлефон

ВАЛОЖЫН

**Здарэнне адбылося 23 лютага ў цягніку Маладзечна – Ліда.**

Едучы ў цягніку, 25-гадовы і 46-гадовы мужчыны нешта не падзялілі. Завязалася патасоўка.

46-гадовы збіў 25-гадовага спадарожніка. Той упаў на падлогу, з кішэні выпаў тэлефон.

Мужчына тэлефон забраў.

– Раней ён быў неаднаразова судзімы. І цяпер супраць яго ўзбуджаная справа як па артыкуле "Хуліганства", так і па актыкуле " Выкраданне маёмасці", – кажа старшы следчы Валожынскага РАСК **Віктар Галоўчыц.**

**Наталля ТУР.**

# У разгар пасяўной знялі электраабсталяванне з трактароў

ВАЛОЖЫН

**1 мая з механічнага двара вёскі Бабровічы на Валожыншчыне невядомы скраў элекраабсталяванне з двух трактароў.**

Шкода ад гэтага злачынства ацэненая больш чым у 20 мільёнаў рублёў.

– Злодзей, асоба якога пакуль невядомая, змог скрасці абсталяванне, нягледзячы на тое, што мехдвор ахоўваўся вартаўніком, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі.**

**Наталля ТУР.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# Дапамажыце адшукаць зніклага ашмянца

АШМЯНЫ

**На зніклага ашмянца Андрэя Аляксандравіча Талапілу сёлета 19 сакавіка завялі крымінальную справу.**



31-гадовы зніклы жыве ў Ашмянах па вуліцы Францішканскай. Дзе ён знаходзіцца цяпер – невядома.

**Прыкметы:** на выгляд 35-40 гадоў, рост каля 160-174 см, сярэдняй паўнаты, твар авальны, плечы прыўзнятыя, лоб сярэдні, вертыкальны, вушы сярэднія, трохкутнай формы, валасы прамыя, кароткія, вочы шэра-блакітныя.

Калі вам штосьці вядома пра магчымае месцазнаходжанне зніклага, звяртайцеся ў Ашмянскі райаддзел Следчага камітэта па тэлефоне (8-01593) **7-12-55.** Альбо ў Ашмянскі РАУС – (8-01593) **4-50-06.**

**Па інфармацыі Следчага камітэта.**

МОЛАДЗЬ

# Зануда, пацешны і няўдачніца

## У Маладзечне прайшоў вечар хуткіх знаёмстваў

МАЛАДЗЕЧНА

**Вечар хуткіх знаёмстваў Speed Dating упершыню прайшоў у Маладзечне 14 мая.**


Фота Настасі РОЎДЫ.

Удзельнікі вечара хуткіх знаёмстваў.

Карэспандэнткі "РГ" **Настасся Роўда** і **Зоя Хруцкая** былі аднымі з удзельніц. Пра тое, што адбывалася ў чацвер вечарам у адной з кавярняў горада, расказваюць дзяўчаты.

Удзельніцы аказаліся больш дысцыплінаванымі і занялі месца за сваімі столікамі за некалькі хвілін да 20:00. Менавіта ў гэты час пачыналася мерапрыемства.

Хлопцаў давялося чакаць амаль паўгадзіны. Адзін з удзельнікаў так і не дайшоў:

– Ой, я толькі што з лазні, у мяне яшчэ твар чырвоны, я не пайду, – адказаў ён.

Агулам у хуткіх знаёмствах паўдзельнічалі восем дзяўчат і сем хлопцаў.

– Гэта было весела, – кажа Настасся Роўда. – І фармат такой сустрэчы мне спадабаўся, бо за пяць хвілін мусіш дазнацца пра чалавека як мага больш.

– Я наогул не прызналася, што я журналістка, – кажа Зоя Хруцкая. – Для кожнага з сямі маіх суразмоўцаў у мяне была легенда, дзе б я магла працаваць. За адзін вечар пабыла і манашкай, і прыбіральшчыцай лісця ў парку.

### Што можна даведацца пра чалавека за пяць хвілін

**Сяргей** пачаў размову з таго, што паспрабаў разгадаць суразмоўцу. Зоі сказаў, што яна працуе журналістам, а Настассі – што яна Цялец па гараскопе. Сам працуе ў машынабудаўніцтве. Любіць падарожнічаць, але большасць вандровак па рабоце.

**Юры** цягам пяці хвілін гаварыў пра музыку. Дзяўчаты даведаліся, што ён працуе ў музычнай школе. Іграе на фартапіяна.

**Дзмітры 1.** Абедзвюм расказваў пра падарожжа ў Камбоджу. Там распаўсюджаныя гісторыі пра тое, як групы дзяцей перапраўляюць праз раку. На іншы бераг трапляюць не ўсе. Толькі па версіі, якую ён расказаў Зоі, падчас перапраўы праз раку кракадзіл з'еў адно дзіця. Насці ж расказваў, што ажно пяцярых.

**Дзмітры 2.** Другі чалавек, які працуе ў машынабудаўніцтве. Ідучы сюды, ён ведаў, што тут збіраюцца адны няўдачнікі. І Зою таксама назваў няўдачніцай.

Насці расказаў, што ў жніўні паедзе на шыкоўны фестываль у Гродна. І што захапляецца машынамі.

**Раман** прызнаўся Зоі, што марыць быць доктарам-мамолагам, а пакуль працуе ў сферы рэкламы. Насці ж ён расказваў, што яго хобі – фота- і відэаздымка. Збіраецца разам з сябрам Дзмітрыем ехаць на фестываль у Гродна, каб потым зрабіць адтуль кіно.

**Кірыл.** Зоі прызнаўся, што іграе ў адной з музычных груп. Насці яшчэ дадаў, што стыль, у якім іграе група, не зусім яго. Затое гэта выдатны спосаб бавіць вольны час.

**Цімафей.** Цімафея зачапіла тое, што Зоя не адвяла позірку, калі той глядзеў ёй прама ў вочы. А калі даведаўся, што Зоя любіць збіраць гербарый, паабяцаў лісце дарыць ёй круглы год. З Насцяй жа пяць хвілін жартаваў і гаварыў пра ўсё і ні пра што.

– Ну, мы проста знаёмыя, – усміхаецца Настасся.

### Дамоў пайшлі паасобку

У канцы сустрэчы хлопцы і дзяўчаты запоўнілі так званую "картку сімпатый".

Яны маглі проста паставіць птушку ў графах "Рамантычныя зносіны", "Сяброўства" ці "Бізнес". Альбо коратка для сябе пазначыць штосьці пра суразмоўцу.

Хлопцы называлі дзяўчат і "зануда", і "вар'ятка". Дзяўчаты пісалі пра сваіх новых знаёмых "пацешны", "можна працягваць знаёмства", "з гэтым пяці хвілін не хапіла". А пазначалі і так: "Пра што з ім можна гаварыць?!"

Калі сімпатыі ў хлопцаў і дзяўчат супадалі, арганізатары на картцы сімпатый пакідалі мабільны тэлефон чалавека, які спадабаўся.

Аднак пасля заканчэння вечара кожны дадому пайшоў паасобку. І працягу рамантыкі ў гэты ж вечар мы не заўважылі.

**Наталля ТУР.**

СВЯТА

## Фестываль "Час жыць" прайшоў у "Халадзечне"

МАЛАДЗЕЧНА

Так назвалі з-за холаду фестывальны горад тыя, хто ўдзельнічаў у свяце "Час жыць".

Як заўсёды, асноўнае дзеянне фестывалю адбылося на плошчы ля Палаца культуры.

Тут працаваў і кардонны горад, і гулялі ў старыя, забытыя, але любімыя гульні. Тут прайшло і мерапрыемства пад назвай "Інтэрактыўныя арт-сесіі".

Сэнс мерапрыемства заключаўся ў тым, што камандам за адну гадзіну трэба было стварыць арт-аб'ект, які адпавядаў бы тэме фестывалю "Анёлы побач".

Шэсць камандаў з пластыкавых бутэлек, з цэлафанавых пакетаў стваралі сваіх анёлаў.

Сярод удзельнікаў была і каманда 12 школы. Пра тое, якога анёла стваралі вучні школы, распавядае педагог-арганізатар лідар каманды **Ганна Кічыгіна:**

– Мы ўзялі два палотны, на іх прымацавалі паветраныя шарыкі. У шарыкі налілі фарбу розных колераў. Затым дартсам кідалі ў шарыкі, яны лопаліся, а фарба разлівалася на палотны. Там, дзе быў прымацаваны трафарэт, з'явіўся надпіс: "Радуйся кожному дню".

Арт-сесія была прымеркаваная да адкрыцця фестывалю. І дала пачатак цэламу марафону конкурсаў, майстар-класаў, канцэртаў, флэшмобаў.

Падчас фестывалю вызначылі лепшых у аратарскім і акцёрскім майстэрстве, лепшых спевакоў і танцораў, а таксама лепшых журналістаў у літаратурнай творчасці.

У гэтым конкурсе перамогу атрымала **Юлія Стрыга**, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік". Тэкст "Ніхто не ведаў, пра што думаў юнак", які прынёс Юлі перамогу, мы прапануем вашай увазе.

Фестываль-2015 скончыўся, але ўсе тыя, хто ўдзельнічаў у ім, могуць дзяліцца сваімі ўражаннямі на старонцы фестывалю "Час жыць" Укантакце.

**Наталля ТУР.**

КОНКУРСЫ

## Максім Алескіў: "Ніхто не ведаў, пра што думаў юнак..."


Фота забяспечана Максімам АЛЕСКІВАМ.

Максім Алескіў ля веласіпеда, які змайстраваў сам.

МАЛАДЗЕЧНА

*З гэтым тэкстам Юлія Стрыга перамагла ў літаратурным конкурсе "Час жыць".*

Мой аднагодак. Рыскі да партрэта. Тэма конкурсу прымусіла мяне ўсур'ёз задумацца: хто з маіх знаёмых можа стаць героем журналісцкага матэрыялу?

І я знайшла такога героя. Знаёмцеся: **Максім Алескіў**, 15-гадовы хлопец, якога я сустрэла ў адным з аб'яднанняў цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік".

### Закручвае гайкі...

Як і многіх дзяцей яго ўзросту, юнака цікавіць тэхніка і ўсё, што з ёй звязанае. Але больш за ўсё Макса прыцягваюць веласіпеды. Праўда, незвычайныя. Такія не купіш, іх можна зрабіць толькі сваімі рукамі.

– Аднойчы ў інтэрнэце ўбачыў карцінку самаробнага веласіпеда з незвычайнай рамай, і ўзнікла жаданне зрабіць нешта падобнае, – успамінае Макс. – Купіў звычайны раскладны "Аист". Паціху пачаў яго разбіраць.

Папрасіў тату, каб дапамог са зваркай. На наступны дзень былі выраблены вілка і вынас для педаляў. Хутка мой велабайк ужо стаяў на колах. Радасці не было мяжы!

Але на гэтым юны тэхнік не спыніўся і праз год ўзяўся за ўдасканаленне.

Перафарбаваў, паставіў новыя колы, педалі, падшыпнікі, абцягнуў "сядушку" і ўсталяваў падсвятленне. Ровар змяніўся не толькі вонкава, але і значна дадаў у хуткасці.

Незвычайны велатранспарт заўсёды прыцягвае увагу прахожых: некаторыя ўсміхаюцца, падыходзяць з пытаннямі, а кіроўцы часам нават сігналяць з машын.

У кампаніі ж сяброў Макса жартам называюць "заніжанай прыёрай", але пры гэтым усяляк дапамагаюць яму з дэталямі для эксперыментаў.

### ...І рыфмы

Пасля цяжкага дня, праведзенага сярод тэхнікі, хлопец стараецца адпачыць ад фізічнай працы ў сваім маленькім свеце, напоўненым творчасцю і любімай музыкай. Перавагу Максім аддаў рэпу, слухае Ginex, Ноганно, Гуф.

Але адна справа захапляцца выканаўцамі і зусім іншая складаць самому. Як аказалася, талент хлопца "закручваць гайкі" ніколькі не саступае ўменню працаваць з рыфмай. У Макса ўжо назапасілася шмат сшыткаў, дзе захоўваюцца тэксты для будучых трэкаў.

Першы раз я выказаў эмоцыі на паперы, калі пасварыўся з дзяўчынай.

У сваіх тэкстах хлопец закранае розныя тэмы: сябры, сям'я, школа, першае каханне, родны горад, узаемаадносіны з людзьмі. "Я паспрабаў у двух куплетах коратка сказаць пра галоўнае...", піша юны аўтар і звяртае ўвагу людзей на немалаважныя рэчы ў жыцці.

Хлопец смела паказвае праблему выбару паміж матэрыяльнымі і духоўнымі каштоўнасцямі: "Людзі за капейку прададуць сям'ю і брата...".

Апошні тэкст, напісаны Максімам, прысвечаны вельмі актуальнай зараз праблеме – спайсам. Хлопец звяртаецца да аднагодак: "Павер, шчасце ёсць, і гэта не парашок...". Дарэчы, адзін з яго тэкстаў быў прысвечаны праблеме бежанцаў. Ён лёг у аснову відэафільма, які знялі навучэнцы гуртка "Кам'ютарны дызайн", дзе займаецца Максім. Летась сацыяльны ролік стаў лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу дзіцячых работ "Будзем разам!".

Словамі Максім быццам малюе шалі, на якіх дабро змагаецца са злом. "Кажуць, рабі дабро, яно вернецца да цябе", – спявае Максім у песні "Маё жыццё". Менавіта з гэтымі словамі малады чалавек крочыць далей, на сустрэчу з новым і нязведаным.

**Юлія СТРЫГА, школа журналістыкі "Маладзік".**

● 18 МАЯ – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯЎ

# Прайшла ноч музеяў у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Ноч музеяў у Мінскім абласным краязнаўчым музеі была прымеркаваная да Міжнароднага дня музеяў. На мерапрыемстве быў сапраўдны аншлаг: прыйшлі навучэнцы каледжаў, бацькі з дзецьмі, неабыякавыя да нашай гісторыі людзі.**

Першая частка мерапрыемства была прысвечаная 70-годдзю Перамогі "Не гасне памяці свечка".

## Гісторыю вайны паказалі рухамі

Прыйшоўшы ў залу, гледачы адразу акунуліся ў атмасферу трагічных падзей вайны, болю людзей, якія загінулі ў Хатыні, якія згубілі сваякоў. Творчы калектыў з Раёўкі рухамі, мімікай, голасам паказаў ваенны час. Перад вачамі гледачоў, быццам рэальныя, праляталі гісторыі людзей, якія перажылі вайну.

Дапамагаў стварыць атмасферу трагічнасці паўзмрок, асвячалі сцэну толькі ліхтарыкі, якія гарэлі ўнізе. Выступоўцы былі ў адзенні жалобнага колеру – чорным. Адна з пастановак была прысвечаная жанчынам на вайне.

Пасля гледачоў чакала экскурсія па музейных экспанатах Вялікай Айчыннай вайны. Убачылі наведнікі знакамітыя плакаты часоў вайны, сярод якіх "Родина мать зовёт", "Слава воину освободителю", "Наше дело правое – победа будет за нами", пісталет у кабуры **Мікалая Андрыякіна**, які знайшлі ў чысцінскіх балотах, рэшткі яго самалёта. Хірургічную сумку партызанскага хірурга **Наталлі Мацісон**. Рэчы генерала **Івана Ляпецкага**, які вызваляў Маладзечна і Барысаў.

## Слуцкія паясы трымаюць у пальчатках

Да другой часткі мерапрыемства, якая была прысвечаная слуцкім паясам, у гледачоў быў вольны час. У фае яны маглі паглядзець фільм пра слуцкія паясы, абмеркаваць убачанае.

Супрацоўнікі музея доўга трымалі гледачоў у напружанні, перш чым паказаць слуцкія паясы: былі невялікія экскурсіі, якія знаёмілі з уборамі нашых продкаў, з помнікамі вайны 1812 года, са зборнікам вершаў **Максіма Багдановіча** "Вянок", у якім быў надрукаваны верш "Слуцкія ткачыхі".

Можна было даведацца, што бранзалеты, ланцужкі, пярсцёнкі былі не проста ўпрыгожваннем жанчыны, а выконвалі функцыю абярэга ад нячыстай сілы. Верылі, што ланцужкі са званочкамі адганяюць яе. Пазней функцыю абярэга ўзяла на сябе вышыўка на нацыянальным уборы.

І нарэшце супрацоўніцы музея ўрачыста вынеслі слуцкія паясы. Пра іх гісторыю расказала намесніца дырэктара па навуковай рабоце Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Наталля Палтавец**. Узгадаем адну з гісторый пра тое, як слуцкі пояс трапіў на радзіму.

– Адзін з паясоў прыехаў з Лондана, – расказала Наталля Палтавец. – У канцы 80-х гадоў доктар гістарычных навук **Адам Мальдзіс** ездзіў па Еўропе ў пошуках гістарычнай спадчыны. Тады ён пазнаёміўся з гісторыкам **Анджэем Ціханавецкім**. Падчас прыватнай гутаркі наш гісторык расказаў, што спрабуе вярнуць слуцкія паясы на радзіму. Анджэй узяў гэта на заметку, за свае сродкі на аўкцыёне ў Содбісе купіў слуцкі пояс. Пасля перадаў яго Мальдзісу. Анджэй заўсёды лічыў, што ён павінны нешта зрабіць для сваёй радзімы, вось і падарыў пояс.




Галоўная захавальніца фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея Алена Чарнецкая трымае слуцкі пояс.

## Пра ноч музеяў гавораць наведнікі

Пра свае ўражанні з ночы музеяў расказала навучэнка **Аксана Панамарова**:

– Першы раз прыйшла на ноч музеяў, – захоплена расказвае дзяўчына. – Вельмі спадабалася выступленне творчага калектыву падчас першай часткі. Арганізатары дасканала падабралі музыку. І ад танцаў, і ад музыкі ішлі дрыжыкі па скуры.

Падзяліўся ўражаннямі і навучэнец **Артур Субота**:

– Штогод хаджу на ноч музеяў, – дзеліцца хлопец. – Спачатку прапанавалі схадзіць выкладчыкі ў каледжы. І так спадабалася, што цяпер хаджу па ўласным жаданні. Хацелася больш даведацца пра зброю, якую выкарыстоўвалі на вайне, якія ўзнагароды былі. Упершыню ўбачыў так шмат плакатаў.

**Галіна СІНІЦА.**

### 10 фактаў пра слуцкія паясы, якія прагучалі падчас ночы музеяў

1. У асобных паясах налічваюць па 50 грамаў срэбра, па 100 грамаў золата.

2. Цана аднаго пояса прыраўноўвалася да гадавога даходу афіцэра арміі Рэчы Паспалітай.

3. Паводле доктара гістарычных навук Адама Мальдзіса, за час існавання слуцкай мануфактуры было выткана пяць тысяч паясоў, дзесяць з іх захоўваюцца ў Беларусі, больш за 80 – у дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве, больш за 60 – у Львоўскім гістарычным музеі, 59 – у Варшаве.

4. За пяць дзён можна было выткаць адзін пояс. Ткалі іх мужчыны не разгінаючыся. На мануфактуры працавалі і жанчыны. Яны выконвалі самую тонкую работу, напрыклад, рабілі махры. Для гэтага на шаўковую нітку намотвалі залатую альбо срэбную. Таксама рыхтавалі шаўковыя ніткі для ткацтва.

5. Даўжынёй паясы былі да чатырох з паловай метраў, шырынёй – 30-35 сантыметраў. Вялікая рэдкасць, калі даўжыня сягаў 60 сантыметраў у шырыню.

6. У перыяд росквіту ў мануфактуры было 24 станкі. Адзін з іх **Ян Маджарскі** кантрабандай вывез з Турцыі. Па яго падабенстве ствараліся астатнія.

7. Кожны пояс складаецца з трох частак: канчатак у выглядзе букета, сярэднік – самая доўгая частка пояса, абрамленне па ўсім поясе.

8. У Мінскі абласны краязнаўчы музей, які знаходзіцца ў Маладзечне, слуцкі пояс трапіў дзякуючы намаганням былога дырэктара музея **Генадзя Каханоўскага**.

9. Калі мануфактурай кіраваў Ян Маджарскі, слуцкі пояс падпісвалі лацінай, пасля кірыліцай.

10. Каб набыць пояс для музея ў Слуцку, людзі два гады збіралі грошы. Частку даў цукровы завод, частку назбіралі людзі. Калекцыянер увесь гэты час чакаў грошы.

● ВЫСТАВЫ

# Успаміны бацькі і салдацкія ўдовы

## Усё гэта можна пабачыць у працах Барыса Цітовіча

ВІЛЕЙКА

У цёплай і дамашняй атмасферы прайшла ў Вілейцы творчая сустрэча з мастаком **Барысам Цітовічам**. У зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея 14 мая сабраліся сябры і аматары яго творчасці, завіталі школьнікі.

Паказалі ім відэапрэзентацыю прац мастака, прагучала шмат музычных нумароў і вершаў. Выступоўцы падкрэслівалі рознабаковасць таленту творцы: нагадвалі, што піша ён абразы, распісваў Свята-Ціханаўскую царкву ў Вілейцы. Казалі, што Барыс Цітовіч шмат зрабіў не толькі для Вілейшчыны, але ўвогуле для Беларусі.

### "Найперш буду выратоўваць гэтыя ўзнагароды"

Цяпер у музеі праходзіць выстава прац Барыса Цітовіча "70 гадоў міру". Яна прысвечаная гераічным і трагічным старонкам гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

На выставе ёсць працы, створаныя па расказах бацькі мастака. У трыпціху "Бацькоўскі альбом" паказаныя моманты з жыцця людзей падчас вайны.

– Бацька мастака, Барыс Андрэевіч, быў кадравым ваенным. Пайшоў на фронт лейтэнантам, вярнуўся ў званні маёра. Працягваў службу ў войску, даслужыўся да палкоўніка, але рана памёр. У майстэрні мастака захоўваецца партрэт бацькі і яго баявыя ўзнагароды, – расказвае навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**.

Расказваў творца пра знакавую працу "Памяць". На ёй – хлопчык, а перад ім – ваенныя ўзнагароды. Бачна, гэта праца ў многім аўтабіяграфічная.

– Сын мастака, калі быў маленькі, любіў раскладаць узнагароды свайго дзеда. І казаў: "Калі будзе ў нас гарэць хата, то найперш буду выратоўваць гэтыя ўзнагароды", – дзеліцца Надзея Аўдзей.

Распавёў Барыс Цітовіч пра знаёмствы з вядомымі пісьменнікамі, да чыіх кніг ствараў ілюстрацыі. Расказваў пра стварэнне трыпціху "Салдацкім удовам прысвячаецца" і серыі "Мае аднавяскоўцы", якая прысвечаная жыхарам Заброддзя.

Працягнецца выстава да 23 мая.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Барыс Цітовіч – мастак, удзельнік шматлікіх выстаў. Працуе у станковай, кніжнай графіцы, жывапісе, іканаграфіі і сцэнаграфіі. Намаганнямі сям'і Цітовічаў створаны мемарыяльны комплекс "Памяці падзей Першай сусветнай вайны" ў вёсцы Забродззе на Вілейшчыне. Жыве ў Заброддзі.

● КУЛЬТУРА

# Тэатралізаванае шоу, арт-праекты і разнастайная музыка – у Вілейцы пройдзе "Ноч музеяў-2015"

ВІЛЕЙКА

У межах акцыі "Ноч музеяў" у Вілейцы 23 мая пакажуць гісторыка-музычны праект. Прымеркаваны ён адразу да чатырох падзей: 555-годдзя Вілейкі, 70-годдзя Перамогі, 100-годдзя бою за Вілейку і 220-годдзя надання Вілейцы статусу горада.

Адбудзецца гісторыка-тэатралізаванае шоу "Сустрэча эпох". Падчас яго на сцэне з'явяцца вядомыя персаналіі вілейскай гісторыі – ад уладальніка Вілейкі **Паца** да фатографа **Беркі Бермана**.

Гледачы наведаюць інтэрактыўны выставачны праект "1418 дзён вайны" і арт-праекты, паўдзельнічаюць у конкурсах, пабачаць фаер-шоу.

Чакаецца разнастайная музычная праграма: выступяць эстрадна-джазавы ансамбль **Фёдара Гура,** цыганскае шоу "Алюр", ансамбль казацкай песні "Бацька Атаман". У праграме "Ноч хітоў" выступіць кавер-бэнд "JIVAGO BAND".

Уваходны білет каштуе 40 тысяч рублёў. Будзе розыгрыш прызоў, дзе галоўным прызам стане ровар.

Пройдзе мерапрыемства на плошчы Свабоды. Пачатак а 19 гадзіне, распавёў дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

**Аддзел інфармацыі.**

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎166**



## ВІНШАВАНКА

**З днём нараджэння!**
**Наталлі Аляксандраўне АДАМОВІЧ з Вілейкі!**



Жадаем, каб моцнай была твая сям'я, тады ўсе дні напоўняцца любоўю, дабром напоўніцца твая душа, добрых людзей на жыццёвым шляху, моцнага здароўя.

*Жадаю, каб жыццё ніколі*
*не канчалася,*
*Бяда і скруха на шляху*
*не сустракаліся,*
*Вялізнага шчасця і верных сяброў,*
*Здароўя, поспехаў і сонечных дзён!*

**Сваякі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-А6 С4, 1995 г.в., седан, АКПП, 2,6 газ-бензін, добры стан, 70 000 000 руб. Т. (8-029) 6465123.*
- ВАЗ-2101, 1985 г.в, на хаду. Т. (8-025) 6035930, (8-033) 6845325.*
- ГАЗ-3110, 1999 г.в., цана дагаворная. Т. (8-029) 1935969.
- Дачыя-Сандэра, 2009 г.в. Т. (8-029) 9345899.
- Крайслер-Гранд-Ваяджар, 1999 г.в., мінівэн. Т. (8-029) 6252412.
- Мазда МПВ мінівэн, 2002 г.в., 2,0Д, серабро. Т. (8-029) 9216093.
- Матацыкл "Мінск" у добрым стане, дакументы. Т. (8-029) 7617385.
- Міцубісі-Карызма. Т. (8-029) 7062834.
- Міцубісі-Лансер, 2001 г.в., 1,9ТД, 58 000 000 руб.. Т. (8-029) 5531823.
- Нісан-Прымера, 1995 г.в., 1,6Б, седан, серабро. Т. (8-029) 7585749.*
- Нісан-Прымера, 1998 г.в., 2,0 бензін, хэтчбэк, сіне-зялёны металік, выдатны стан. Т. МТС (8-029) 5679810, Вэлком (8-029) 9838209.
- Пежо-405, 1991 г.в., дызель, універсал, зялёны. Т. (8-044) 7196323.*
- Рэно-Кліа, 2009 г.в., 1,2 турбабензін, універсал, выдатны стан. Т. (8-029) 7047444.*
- Рэно-Лагуна 1, 2000 г.в., 1,9 Д, 75 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 2731365.*
- Рэно-Меган, 2002 г.в, 1,4, 16 В, серабрысты металік, 5-дзверны, мульты-руль, кандыцыянер, СД магнітола. Летняя і зімовая гума, на дысках, новая, "Барум", пярэднія электрапад'ёмнікі шкла, 77 000 000 руб, торг. Т. МТС (8-029) 7557022.*
- Рэно-Сцэнік 2, 2004 г.в,1,6 Б, залацісты металік, выдатны стан, 100 000 000 руб. Т. (8-029) 8755766.*
- Рэно-Сцэнік, 2001 г.в, 1,9 ДСІ. Т. (8-029) 1020620, (8-0290 7088312.*
- Рэно-Сцэнік, 2006 г.в., 1,9 ДСІ, 6 МКП. Т. (8-029) 6265078.*
- Сеат-Таледа, 1992 г.в., 1,6 бензін, серабрысты металік, Вілейка. Т. МТС (8-029) 5609398.*
- ФВ Джэта, на хаду. Т. МТС (8-033) 6383794.*
- Фіят-Марыа, 1999 г.в., 1,9 ТД, універсал, зялёны металік, падушкі бяспекі, кандыцыянер, у выдатным стане, 48 000 000 руб. Вілейка. Т. (8-029) 8617610.
- Фіят-Мульціпла, 2001 г.в., 1,6ГБ, мінівэн, 58 000 000 руб. Т. (8-044) 7601222.
- Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3Б, 3 дв., поўнае ТА, 16 000 000 руб. Т. (8-029) 6194636.*
- Форд-Сіера, 1988 г.в., газ-бензін. Т. (8-033) 6383847.*
- Форд-Транзіт,1998 г.в, 2,5 ТД, грузавы, падвышаны, кароткі. Добры стан. Т. (8-029) 3675088.*
- Форд-Эскорт, 1998 г.в., універсал. Т. МТС (8-033) 9031857.
- Хундай-Туксон, 2005 г.в., 2,0 CRDI, усё ёсць. Т. (8-029) 7670805.*
- Шкода-Румстэр, 2009 г.в., 1,4Б,. Т. (8-029) 1201066, (8-029) 7617385.
- Шаўрале-Круз, 2010 г.в., біты перад. Т. (8-029) 9216093.
- **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДА РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭНАЎ** у наяўнасці. Для іншых марак пад заказ. Вялікі выбар, нізкія цэны, гарантыя, Маладзечна, вул. Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501, (8-029) 8787760, (8-029) 6392287.*
- Запчасткі б/у да Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*
- Запчасткі да Мерседэса ML-2.7 CDI. Ёсць усё! Нядорага. Т. Вэлком (8-029) 1333971.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО; КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- А/м 1980-2010 г.в. у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 6757851.*
- Іншамарку з любымі дэфектамі, да 25 000 000 руб. Т. (8-029) 3856049.*
- Любое аўто, любой маркі і мадэлі, у любым стане, аварыйнае ці на з/часткі. Т. (8-029) 2635648.*
- Матацыкл «Мінск». Т. (8-029) 2375721.*

### ПАСЛУГІ

- **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5062372.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, ТРАНШЭІ ПАД ВАДУ, ГАЗ, ПАДМУРАК. ІП КРОЕР А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.***
- Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі міні-пагрузчыка, міні-экскаватара, колавага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- **ЭКСКАВАТАР-ПАГРУЗЧЫК, ТРАНШЭІ, КАТЛАВАНЫ, ВАДАЁМЫ, МАНТАЖ**. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365 Т. (8-029) 5045554.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў в. Асіпавічы Вілейскага р-на, 1/1 цэгл., 38,9/ 17,6/ 9,8. ПП "АН "Вецер перамен". УНП 691887367. Маладзечна, вул. Прытыцкага, 21. Т. у Маладзечне 771333, МТС (8-029) 5751660, Вэлком (8-029) 3161660.
- 1-пакаёвая кватэра з еўрарамонтам у цэнтры г. Маладзечна. Т. (8-033) 6697658.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В.Гасцінец, 50. Магчымы абмен на кватэру ў г. Мінску з даплатай. Разгледзім усе варыянты. Т. МТС (8-029) 8582379, Вэлком (8-029) 1942874.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы ці абменяю на 2-пакаёвую з даплатай. Т. (8-029) 2184237.
- 2-павярховы катэдж з усімі выгодамі ў п.Чысць: агул. плошча 107 кв.м, хлеў, гараж з ямай ці мяняю на 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне і дом у в. Краснае ці г.п. Радашкавічы. Разгледжу любыя варыянты. Т. (8-029) 7528450, (8-0176) 772234.
- 2-пакаёвая кватэра 2009 г. у Вілейцы ў р-не Незалежнасці. Т. (8-029) 3383466, (8-029) 3383948.*
- 2-пакаёвая кватэра ў 4-павярховым доме ў в.Раёўка. Рамонт, вокны ПВХ, побач лес, рака, 336 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 1787505.
- 3-пакаёвая кватэра 2009 г. у Вілейцы, р-н Макаўе. Т. (8-044) 7646116.*
- 3-пакаёвая кватэра ў кааператыўным доме. Агул. пл. 56,27 кв.м, жыл. пл. 37,6 кв.м, 1 паверх 5-павярховага дома ў р-не "Зеніт", добры стан, лоджыя, 555 000 000 руб, торг пры аглядзе. Вілейка. Т. (8-025) 6967804, (8-033) 3130727.
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В.Гасцінец,119 (64 4/39 1/7 7). Т. (8-029) 6411879.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, 2/3П, 62/40/9. Т. Вэлком (8-029) 6851798.
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1986 г. Т. (8-029) 6888111, (8-029) 3555444.*
- 3-пакаёвая кватэра ў новым мікраёне Ашмянаў.Т. (8-0290 1973401.
- 3-пакаёвая кватэра ці абмяняю на 2-пакаёвую на 1-м паверсе ў Вілейцы. Т. (8-029) 2725566.
- 3-пакаёвая кватэра, 63,2 кв.м, кухня 7,9, лоджыя.Т (8-029) 2500524.*
- 3-пакаёвая ўтульная цёплая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 2 паверх. Т.(8-029) 3201270, (8-029) 5681791.*
- 4-пакаёвая кватэраў Смаргоні, 1/5 панэль., 99,5/ 51,2/ 7,6. ПП "АН "Вецер перамен". УНП 691887367. Маладзечна, вул. Прытыцкага, 21. Т. у Маладзечне 771333, МТС (8-029) 5751660, Вэлком (8-029) 3161660.
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Будынак цагляны, 470 кв.м, у Астравецкім раёне, на трасе Вільня-Полацк, побач 3 возеры, вельмі танна, 1 га выкупленай зямлі. Т. (8-029) 3232498, (8-029) 7880030.*
- Гараж у ГК № 4, добры стан, яма, склеп. Т. (8-029) 8784272.*
- **ГАРАЖ У ГК №21. Т. (8-033) 6488261.***
- Гараж у ГК-12 г. Маладзечна агульнай плошчай 34 кв. м, з аглядной ямай і склепам. Т. Вэлком (8-044) 7798846, МТС (8-029) 7798846.*
- Гараж, агул. пл. 21 кв.м, з падвалам і склепам у ГБК-1 "Збіна" г. Вілейка. 50 000 000 руб. Т. (8-025) 6233209.
- Дача на Кардоне са шлакаблокаў. Другі паверх – мансарда з халоднай прыбудовай. Побач лес, рэчка. Ад Мінска 115 км. 80 000 000 руб. Т. (8-025) 6967804, (8-033) 3130727.
- Дача ў Лазаўцы. Т. МТС (8-029) 7724958.*
- Дача, 10 км ад Вілейкі, лес, рака. Т. (8-029) 8597408.*
- Дом у в. Любань Вілейскага р-на, 58/ 33/ 7,5, участак 0,25 га. ПП "АН "Вецер перамен". УНП 691887367. Маладзечна, вул. Прытыцкага, 21. Т. у Маладзечне 771333, МТС (8-029) 5751660, Вэлком (8-029) 3161660.
- Дом (дрэва) 7х7 у в. Касута Вілейскага р-на, без унутр. работ, участак 15 сотак, хлеў, побач вадасховішча. Т. (8-029) 7612383.
- Дом (кватэру) у в. Ілья. Ацяпленне паравое. Т. МТС (8-029) 7430266.
- Дом 2-павярховы драўляны на вываз. Т. МТС (8-029) 7737594.*
- Дом блочны прыватызаваны, 100 кв.м, 1990 г, абкладзены цэглай, у Вілейцы, р-н Макаўе. Ацяпленне газавае, пячное і кацёл на цвёрдым паліве. Шклопакеты. Участак 10 сотак, сад, гараж, лазня. Т. (8-029) 8543799.
- Дом на беразе возера Свір (25 сотак). 100% гатоўнасці, выдатны стан, выхад да возера, 414 000 000 руб. Т. (8-029) 1405077.*
- Дом на беразе р. Сэрвач у г.п. Крывічы. Т. МТС (8-029) 7548741, Вэлком (8-029) 6858968.*
- Дом у в. Казяняты Смаргонскага р-на, калодзеж, лазня, падвал, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 8919485, (8-029) 7737781.*
- Дом у в. Клыні Вілейскага р-на ў добрым стане, 25 сотак, калодзеж, тэлефон і г.д., 240 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 7901525.
- Дом у в. Куранец, больш за 100 кв. м, зямельны участак 0,04 га. Т. МТС (8-029) 5609402, (8-029) 5609398.*
- Дом у в. Скадорвы Валожынскага р-на, гаспабудовы, калодеж, участак 0,3 га.Т. (8-0176) 765202, (8-029) 5681972.*
- Дом у в. Супраненты Астравецкага р-на, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-01592) 52582, (8-029) 7875173.*
- Дом у в.Ластаянцы Валожынскага р-на, побач лес, рэчка, прыпынак цягніка, 54 000 000 руб.Т. (8-029) 8727671.
- Дом у в.Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.
- Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 6562198.*
- Дом у Маладзечне, пл. 66,7 (жылая 45,7) ці абмен на 2-пакаёвую кватэру. Т. (8-0176) 503230, (8-029) 3406057.
- Дом у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8775320.*
- Дом у Чырвоным Беражку, 3 км ад Вілейкі, 70 м ад ракі Вілія. Ёсць прыпынак чыгункі. Т. (8-033) 6316374.
- Дом цагляны ў Вілейцы, летняя кухня, гараж, калодзеж. Т. (8-029) 5229425.
- Дом цагляны, 90 кв.м, па вул. Каляднай, 38 ці абмен на 1- ці 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне на Маладзечна. Газ, вада, участак 7,5 сот. Т. (8-0176) 736532.*
- Домік дачны 3100х6000х2400, блок-хаус, дах металачарапіца. Дапамагу з дастаўкай і мантажом. Т. МТС (8-029) 5752805, Вэлком (8-029) 3334403.*
- Незавершаная капітальная 2-павярховая пабудова мансарднага тыпу, блочная, абліцаваная цэглай, агульнай плошчай 178 кв. м, у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 8733113, Вэлком (8-029) 3463652.*
- Паўдома з участкам у Вілейцы. Т. (8-029) 2595776, (8-029) 1250700.*
- Участак 0,15 га ў Смаргоні.Т. (8-025) 6035930, (8-033) 6845325.*
- Участак у Вілейцы 15 сотак пад будаўніцтва, прыватызаваны. Газ, вада, электрычнасць. 51 000 000 руб, торг. Т. Вэлком (8-029) 1333971.

### МЯНЯЮ

- 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, р-н Зеніт, 4 паверх, на 1-пакаёвую з даплатай ці куплю. Т. (8-029) 8615201.*



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

СПОРТ

# У Маладзечне пройдзе гадзінны бег, прымаюць заяўкі на ўдзел

МАЛАДЗЕЧНА

**Гадзінны бег на гарадскім стадыёне ў Маладзечне пройдзе 13 чэрвеня.**

У спаборніцтвах могуць удзельнічаць прадстаўнікі розных клубаў па бегу, юнакі і дзяўчаты да 18 гадоў – толькі пры наяўнасці медыцынскай даведкі. Іншыя ўдзельнікі нясуць персанальную адказнасць за сваё здароўе, калі распісваюцца ў картцы ўдзельніка.

– Ад Маладзечна будзе каля 50 чалавек, – расказвае кіраўнік клуба аматараў бегу "Рэгіён" **Аляксандр Кавалёў.** – Ужо ёсць заяўкі з шасці гарадоў: Смаргоні, Мінска, Магілёва, Старых Дарог, Гомеля і Крупак.

Папярэднюю заяўку для ўдзелу ў гадзінным бегу трэба адправіць на электронны адрас ufksitmolodechno@tut.by да 10 чэрвеня. Рэгістрацыя ў дзень старту пачнецца з паловы дзявятай і скончыцца а палове дзесятай на гарадскім стадыёне.

Пераможцы атрымаюць кубкі і граматы. Усіх удзельнікаў, якія паказалі вынікі ў дзесяць кіламетраў і больш, узнагародзяць памятнымі медалямі.

У камандны ідзе сума метраў дзесяці лепшых вынікаў: для жанчын – чатыры лепшыя, для мужчын – шэсць лепшых ад кожнага клуба аматараў бегу. Няпоўныя каманды клубаў, у якіх менш за дзесяць чалавек, могуць удзельнічаць толькі ў асабовых спаборніцтвах.

**Галіна СІНІЦА.**

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Маладзечанка ў сямейным архіве знайшла фотаздымкі з Юрыем Нікуліным

МАЛАДЗЕЧНА

**Большасць ведаюць акцёра, артыста цырка, тэлевядучага Юрыя Нікуліна па фільмах "Пёс Барбос і незвычайны крос", "Каўказская палонніца", "Самагоншчыкі", "Аперацыя "Ы", альбо Іншыя прыгоды Шурыка" і многіх іншых.**



У 1980 годзе Юры Нікулін быў у Маладзечне. Тады ў яго зламалася машына, маладзечанцы змаглі пагутарыць і сфатаграфавацца.

Фота забяспечана Людмілай ЯРМОЛЕНКАЙ.

А вось маладзечанка **Людміла Ярмоленка** расказала, як знакаміты акцёр калісьці праездам быў у Маладзечне.

– Нядаўна праглядала сямейны архіў і знайшла два старыя фотаздымкі, на якіх ёсць Юры Нікулін, – распавядае Людміла. – Яны дрэнна захаваліся, аднак акцёр і маладзечанцы, якім пашчасціла сфатаграфавацца са знакамітасцю, пазнавальныя.

**На адным фотаздымку Нікулін стаіць у цэнтры сярод маладзечанцаў. На другім дае прыкурыць аднаму з супрацоўнікаў міліцыі. Ззаду на фотаздымку надпіс: "1980 год. Юры Уладзіміравіч Нікулін на станцыі тэхабслугоўвання. Горад Маладзечна, май".**

– Бацька, **Аляксандр Ярмоленка**, расказваў, калі акцёр ехаў праз Маладзечна, у яго зламалася кола, – дзеліцца ўспамінамі жанчына. – Ён спыніўся ў горадзе, каб адрамантаваць яго. Мой бацька ў той час працаваў начальнікам міжраённага рэгістрацыйна-экзаменацыйнага аддзела дзяржаўнай інспекцыі дарожнага руху, таму дапамагаў Нікуліну.

Жанчына гаворыць, што акцёр вельмі спяшаўся, таму фотаздымкі рабілі наспех.

Людміла параіла звярнуцца да Эдуарда Манкуса, які тады працаваў у міліцыі і асабіста бачыў Нікуліна.

## Фотаздымкі з Нікуліным

– Мой сябар Аляксандр Ярмоленка расказваў, што ў той дзень на пасту ДАІ спынілася машына. За рулём яе быў ніхто іншы, як Нікулін. Ён выйшаў і спытаў, ці ёсць у горадзе станцыя тэхабслугоўвання, дзе можна замяніць кола, – расказвае выкладчык Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа **Эдуард Манкус**. – Ён суправаджаў знакамітага акцёра да станцыі тэхабслугоўвання. Было недзе каля дзвюх гадзін дня, там праходзіў тэхагляд. Яго давялося спыніць.

Разам з акцёрам ехалі жонка Таццяна, сын Максім і іх сабака, пудзель.

**У Маладзечна Юры Нікулін прыехаў на канцэрт, які ладзіў у Доме культуры чыгуначнікаў.**

Эдуард узгадаў, што пакуль рамантавалі кола, і акцёр, і міліцыянеры расказвалі смешныя гісторыі. Юры Нікулін, напрыклад, анекдот пра гарбатага:

Ідзе мужык па могілках, раптам даносіцца голас:

– Ты хто?

– Гарбаты!

– Не мужык, ты не гарбаты.

Прыйшоў дамоў – гарба няма. Расказаў гэту гісторыю свайму сябру, які быў кульгавым. Параіў пайсці на могілкі. Той пайшоў, раптам чуе:

– Ты хто?

– Кульгавы, ці не бачна?

– Не, мужык, ты не кульгавы, ты гарбаты.

Адзін з супрацоўнікаў міліцыі расказаў гісторыю, якая здарылася на чыгунцы ў Маладзечне. Перад шлагбаумам спыніўся матацыкліст і чакаў, пакуль праедзе цягнік. Ззаду пад'ехаў мужчына на кані, і конь пачаў лізаць сядло на матацыкле. Матацыкліст узрушыўся. Пакуль спрачаліся, ззаду спыніліся "Жыгулі". Кіроўца таксама далучыўся да спрэчкі. Каб супакоіць каня, прапанаваў даць яму па пысе. Гаспадар зрабіў гэта, конь рвануў назад, а павозка пашкодзіла машыну.

Пачалася новая спрэчка, у якую далучыўся мужчына, які вёў казу з поля. Жывёлу прычапіў да шлагбаума, каб не сышла, а гаспадар пачаў разбірацца ў сітуацыі. Пакуль разбіраліся, цягнік прайшоў, шлагбаум падняўся, а каза з ім.

– Аднойчы ў Юрыя Нікуліна спыталі, адкуль ён бярэ гісторыі для сваіх тэлеперадач, – распавядае Эдуард Манкус. – Ён сказаў, што ўсе яны з жыцця. І ўзгадаў гісторыю, якую яму расказвалі ў Маладзечне.

**Пасля рамонту машыны многія захацелі сфатаграфавацца са знакамітасцю. Юры Нікулін спытаўся: "Дык што, мы проста так будзем фатаграфавацца? Не, так справа не пойдзе." І спытаўся, ці курыць хто з прысутных. На гэта пачуў многа станоўчых адказаў, прапанаваў зрабіць фотаздымак, дзе ён дае прыкурыць цыгарэту міліцыянерам. Пры гэтым пажартаваў: "Будзеце потым расказваць, што Нікулін запальваў мне цыгарэтку!"**

– Такіх фотаздымкаў павінна быць некалькі, – лічыць Эдурд Манкус. – Тады да Нікуліна па чарзе падыходзілі, каб прыкурыць і сфатаграфавацца.

Выкладчык каледжа расказвае, каб зрабіць гэтыя фотаздымкі, папрасілі прыехаць эксперта-крыміналіста з міліцыі. Гэта быў альбо **Уладзімір Грыбанаў**, альбо **Аляксандр Бальшухін**.

На развітанне акцёр падарыў некалькі афіш са сваім аўтографам і кантрамаркі.

– Юры Нікулін быў простым у абыходжанні, ніякім чынам не паказваў, што ён народны артыст і знакамітасць, – прыгадвае Эдуард. – Пасля таго, як ён паехаў з горада, было вельмі многа ўражанняў, доўга абмяркоўвалі гэту падзею.

Зазірніце ў свае сямейныя фотаархівы, магчыма, вам таксама ёсць што расказаць пра сваіх блізкіх, пра гісторыю сваёй сям'і.

**Даведка "РГ".** Кантрамарка – талон, які дае права на бясплатнае наведванне тэатра, кіно і падобнае. Сёння кантрамаркі не дзейнічаюць.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

КАЛЯНДАР

**22 мая.** 115 гадоў з дня нараджэння Мікалая Каспяровіча (1900 – 1937), беларускага краязнаўца, лексікографа, мастацтвазнаўца і літаратуразнаўца.

***

**1792 год.** Ашмяны атрымалі герб.

***

**24 мая.** 90 гадоў з дня нараджэння Вольгі Казловай (1925 – 2009), беларускага літаратуразнаўца, заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі.

***

Дзень славянскай пісьменнасці.

***

**25 мая.** 110 гадоў з дня нараджэння Сяргея Хмары (сапр. Сіняк, 1905 – 1992), грамадскага дзеяча, пісьменніка, паэта, журналіста, выдаўца, дзеяча эміграцыі ў Германіі і Канадзе. Працаваў настаўнікам у Заходняй Беларусі за польскім часам. У 1920-я гады член Таварыства беларускай школы ў Радашкавічах і Вільні, удзельнік Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

***

**26 мая.** 105 гадоў з дня нараджэння Эдзі Рознера (Адольфа-Эдуарда) (1910 – 1976), кампазітара, дырыжора, унікальнага трубача і шоўмэна – на працягу сямі гадоў узначальваў першы (і, шкада, апошні ў гісторыі Беларусі) Дзяржаўны джаз-аркестр рэспублікі – лепшы (па сусветных стандартах) свінгавы біг-бэнд СССР 1940-х гадоў, але імя яго так і не знайшло свайго годнага месца ў шэрагу найбуйнейшых дзеячаў культуры і да сённяшніх дзён вядома практычна толькі вузкаму колу аматараў джаза. Эдзі Рознер быў першым у гісторыі СССР джазавым салістам-інструменталістам, якому было прысвоенае ганаровае званне заслужанага артыста рэспублікі, і гэта было званне заслужанага артыста БССР.

***

**27 мая.** 115 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Жылкі (1900 – 1933), беларускага паэта, перакладчыка, крытыка, публіцыста.

***

**75 гадоў** з дня нараджэння (1940) Тамары Раеўскай, беларускай эстраднай спявачкі, заслужанай артысткі Беларусі.

***

**180 гадоў** з дня нараджэння Антона Труса (1835–1886?), рэвалюцыянера-дэмакрата, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гадоў.

***

**28 мая.** 110 гадоў назад (1905) у газеце "Северо-Западный край" адбылося першае выступленне Янкі Купалы ў друку – упершыню надрукаваны верш "Мужык".

Марыя БЕРАСНЕВА.

АДПАЧЫНАК

# Егіпет. Мары здзяйсняюцца

## Пачатак падарожжа з першых крокаў

Пяць, чатыры, тры, два, адзін – і боінг кідае сваю тушу ў нябёсы. Пасля набору вышыні пасажыры дружна выдыхаюць.

Народ на борце лайнера розны: нехта цішком цісне "віскар", суседка спрабуе адправіць смс, не разумеючы, што ў яе ў руках апарат сотавай сувязі, а не касмічнай. Нехта моліцца – ці то ад страху, ці то карыстаецца выпадкам, што апынуўся бліжэй да Бога. А пераважная большасць дастае гаджэты розных масцей і калібраў і пачынае дружна ганяць шары, забіваць казла і пяліцца на маніторы іншых.

Мы з каханай дружна разглядаем планету, бо абое географы, у яе натуральную велічыню. Робім сумеснае сэлфі над Істамбулам, заўважаем маленькага анёла, які стрэльнуў у нас сонечным праменьчыкам, і чакаем Каір і піраміды.

І вось капітан паветранага карабля аб'яўляе, што пад намі піраміды. Нават з вышыні тры тысячы футаў адчуваецца іх прыгажосць залатога сячэння і непакорнасць часу. Побач велічна ляжыць Сфінкс, зорка ахоўваючы цэльнасць сусвету.

Яшчэ паўгадзіны і – прывітанне Хургада (горад у Егіпце і турыстычны цэнтр на Чырвоным моры – рэд.).

## Засяленне ў гатэль

Мы засяляемся ў шыкоўны, у віктарыянскім каланіяльным стылі гатэль. Шмат мармуру, дрэва, бронзы, праўда, усё пакрытае пацінай часу. Няўжо і сапраўды будаваўся ў часы каралевы Вікторыі. За вылізанымі фасадамі будынкаў і тэрыторый вакол бачныя закінутыя пабудовы, будаўнічае смецце. Як у казцы, карэта ператварылася ў гарбуз, а пяць зорак на фасадзе – у троечку на задворках.

Не сказаць, што мы гэтага не ведалі, у інтэрнэце глядзелі фота, чыталі водгукі. Ды толькі эйфарыя перад адпачынкам, бюджэтная цана (сярэдняя зарплата па краіне), вылет з Мінска, і мы маем тое, што маем.

Але мора, вада якога ахутвае цябе пяшчотай, ласкай і любоўю. Вячэра з рыбай, якая растае ў роце, глыток рому з колай, водар заканасці ў цудоўную спадарожніцу, рамантычная вячэра, салодкая арабская ноч. Сняданак са свежым тваражком з вярблюджага малака, кофе па-егіпецку, і вось лічыльнік бальнасці гатэля робіць шчаўчок уверх. І мы бачым чатыры зоркі. Не важна, што вакол нас, важна, што ўнутры...

## Першыя ўражанні

Тры дні не мог знайсці чарніла і паперу, каб пісаць, траплялся толькі ром і папірус. А ромам па папірусе нават у Егіпце не пішуць

Сацсеткі робяць сваю каварную справу, разбураюць сем'і і перашкаджаюць адпачываць на моры. Як, скажаце вы? А вось так. Адна палова адпачывальнікаў бачыць сябе зоркамі ці зорачкамі інэта, іншая – прафесійнымі фатографамі, чые шэдэўры чакаюць-не дачакаюцца ОК, ВК і іншыя сеткі, у якія вы даўно патрапілі і не можаце выбрацца. Нашы фота на моры рабіў араб-профі з фірмы "Залаты оскар".

## Хургада – горад усходніх палацаў і казачных замкаў

Дзясяткі кіламетраў усходніх палацаў з "Тысячы і адной ночы", казачных замкаў, формы якіх вагаюцца ад класічных да фантастычна-сюррэалістычных, патанаюць у зеляніне. Хаця вада ў горад падаецца па трубаправодзе за 240 кіламетраў ад Ніла. Салодкай арабскай ноччу гэтыя палацы і замкі свецяцца мірыядамі ультраяркіх лямпаў і ствараюць містычныя цені, у якіх хаваюцца піраміды і блукаюць Фараоны.

На вуліцах сотні і тысячы лавачак, крам і крамак, ёсць з назвамі Мішутка, Матрошка, Алілуя. З алеямі, прыправамі, чаямі, скурай, серабром і ўсім астатнім, без чаго можна абысціся, але немагчыма паехаць, не купіўшы.

Поўная адсутнасць цэннікаў, касавых апаратаў, кампаў, сканераў, банераў і астатняй мішуры цывілізаванага гандлю. Прадаўцы там выключна хлопчыкі маладога і сярэдняга ўзросту. Напэўна, збіраюць грошы на вярблюдаў, каб заплаціць калым. Яны галоднымі поглядамі праводзяць славянскіх прыгажунь з кучаравымі валасамі і стройнымі бровамі.

Трохі ў баку ад берага – жылыя кварталы, тыпу нашых пяціпавярховак, ва ўсходнім стылі. Ёсць раён Русгарда, у якім жывуць выхадцы з постсавецкай прасторы.

Ужо на другі дзень тыя, хто адпачываў у нашым гатэлі, стварылі сваю дыяспару Белгурда, у якую ўвайшлі ваш не зусім пакорны слуга слова, мая каханая спадарожніца, дзве міленькія мінчанкі год 30 і адзін мужчына нявызначанага ўзросту, але адназначна ваеннай прафесіі. Праўда, часта ён выпадаў з нашага кола захапленняў, яму падабалася ў адзіноце знішчаць запасы рому, прызначанага для будучых пакаленняў адпачывальнікаў.

## Усё ўключана

Не ведаю, хто прыдумаў тэрмін "усё ўключана", але, наведаўшы пяць рэстаранаў нашага комплексу, я так і не знайшоў сала, вэнджанай кілбасы, селядцоў пад шубай, гарошку і шмат іншых, звыклых нам з дзяцінства, прадуктаў.

Таму, бывае, даводзілася закрывацца ў нумары ці ісці на пустынныя пляжы. Там наразаць вялікімі кавалкамі сала з дзвюма праслойкамі ў чатыры пальцы, ламаць пальцамлханую кілбасу і пад злёгку з гарчынкай ром, не разбаўлены, дзяліцца тайнамі стварэння такіх звыклых нам з дзяцінства кулінарных радасцяў і зусім незразумелых егіпцянам.

**Аднойчы на пах прыбег пустынны шакал.**

Калі мая мілая, успамінаючы нашага Тархана, падзялілася кавалачкам свініны, незнаёмай прадстаўнікам мясцовай фаўны, ён паспрабаваў яе лізнуць, але вымушаны быў рэціравацца пад дружнае ўлюлюканне нашай кампаніі.

Праз два дні мы сустрэлі яго ў адной з лавак, дзе ён сумна глядзеў на нас шклянымі вачыма чучала. Калі адна з мінчанак прымярала ўсходнія тапачкі Алі-бабы, чучала скокнула ёй на нагу і спрабавала яе ці то лізнуць, ці то ўкусіць. Паіншаму гэта называецца тэорыяй парных выпадкаў. Увогуле парных выпадкаў было шмат. Некаторыя з іх былі як успышка звышновай зоркі, ад якіх кружылася галава і хацелася, нягледзячы на 220 фунтаў вагі, лятаць.

І шмат хто лятаў – на парапланах, на буксіры хуткаходных катараў. Але мы шукалі марскія падарожжы.

## Райскі востраў

Калі ружовы буёк сонца ўсплыў з глыбінь Чырвонага мора, беласнежная яхта капітана Махмедачкі несла нас на райскі востраў. Перад гэтым быў майстар-клас па завязванні усходніх хустачак (я быў у ролі шэйха), танца жывата, дзе запальвалі тыя, каму далёка не да запальванняў. Але што робіць афрыканскае паветра?! Адна мая знаёмая, а можа, і не адна, нават закахаліся.

Затым хор падарожнікаў пад тамтамы пустых вёдзер распяваў "Кацюшу". Былі фотасесія аля "Тытанік", праўда, са шчаслівым канцом, "знесеныя ветрам", "прапаўшыя ў часе" і "выкінутыя на бераг". Гульні, наперагонкі з дэльфінамі. Пагружэнне ў адкрытым моры да каралаў, за гэта на мяне сварыўся інструктар, што чуць не схапіў за хвост метровую мурэну. Пагружэнне ў батыскафе, дзе ў ілюмінатар назіралі, як мясцовы чалавек-амфібія карміў рыбак, якія, быццам матылькі на святло, плылі да яго.

## Узровень абслугоўвання

Бывае, па вечарах, калі не пелі караоке, не танцавалі танец жывата, не круцілі спадніцу Танура – нацыянальны мужчынскі танец са спадніцамі – мы знаёміліся з інтэр'ерамі атэляў. У комплексе (Golden 5 City) іх было пяць, выкарыстоўваліся ўсе рэстараны і бары па сістэме усё ўключана.

Канешне, узровень абслугоўвання і ступень разбаўленасці алкаголю мелі прамую залежнасць ад ступені зорнасці атэля. Аднак пры прад'яўленні пасведчання з партрэтам першага прэзідэнта Джорджа Вашынгтана і назвы паролю "Падарунак" мы адразу станавіліся сябрамі і братамі.

А бармены і афіцыянты спрабавалі ўбачыць самае дно тваіх вачэй, прабрацца ў душу, ускрыць мазгі толькі з адной мэтай – вызначыць, ці ёсць у цябе яшчэ гэтыя чараўнічыя паперкі і ці гатовы ты як добры самарыцянін падзяліцца імі.

Было і такое, калі давялося, парушыўшы нейтралітэт, голасна сказаць, што ігнараванне прось-



Фота з асабістага архіва Ігара КІЦІКАВА.

Ігар Кіцікаў, дырэктар Вілейскага дзяржаўнага каледжа, з жонкай Ларысай на адпачынку ў Егіпце. Ад шчасця аж дух займае.


Фота забяспечана Ігарам КІЦІКАВЫМ.

У Егіпце была магчымасць парыбачыць.


Фота забяспечана Ігарам КІЦІКАВЫМ.

Ігар Кіцікаў з жонкай Ларысай.

бы беларускага хлопца можа прывесці да таго, што “Арабская вясна” здасца ім “Ласкавым маем” і ўжыць некалькі моцных слоўцаў. Пасля гэтага ў імгненне вока ўсё з’яўлялася на стале.

Не шкадуйце слоў прывітання і ўдзячнасці, усмешак і дэманстрацыі сваіх беласнежных зубоў, рабіце і ўручайце маленькія падарункі. Тады ўсё атрымаецца.

Падарунак ад першага міністра фінансаў ЗША Аляксандра Гамільтана – ён адлюстраваны на дзясятцы долараў – дазволіў атрымаць нумар не з відам на пяціметровую агароджу і не на дах тэхбудынка, пакрыты рубероідам, які плавіцца ад сонца. Нумар выходзіў на басейн з блакітнай вадой і ізумрудна перламутравую даль мора ў кайме фінікавых пальмаў, на аддаленні ад рэстарана, што дазволіла пазбегнуць шуму.

Якое задавальненне! Раніцай прачынаемся, спускаемся з другога паверха і ныраем у 25-метровы басейн. Паплаваўшы, атрымліваем пляжныя ручнікі. Трапляем у бар у выглядзе тэрасы, абысці які немагчыма. Там можна выпіць халоднай колы ці апельсінавага соку, прапусціць глыток рому ці віскі.

Прапускаем у прамым сэнсе гэтага слова і, выходзячы з бара, аказваемся на пясчаным пляжы, усыпаным гіганцкімі грыбамі з пальмавых галінак для ценю. Мора цёплае, уваход плаўны. Злева раскінулася бухта ў форме падковы з выратавальнай вышкай. Людзей з прычыны камяністага дна ў ёй няма, затое нам там была любата. Часам здавалася, што гэта бязлюдны востраў, а мы Рабінзоны і Пятніцы...

## Выклікаў павагу ў мясцовых

На моры выратавальнікаў не было ўсе дзесяць дзён. А вось ля басейна глыбінёй 150 см дзяжурылі кожны дзень. Я вырас на Вішнеўскім возеры, Віліі і Вілейскім моры, дзе ў нас любімай забавай было пераплыць вадасховішча (два км), пагуляць у раненага Чапаева, які пераплываў Урал, прывязаўшы адну руку і заграбаючы другой, нырнуць на дно і ляжаць, пакуль лёгкія не пачнуць узрывацца. Любілі скакаць і рабіць нырца з берага, самаробнага трампліна, з плячэй сяброў, вышкі, моста...

Таму на моры я заплываў за буйкі, ныраў з парапета і, калі адсутнічаў кантроль з боку маёй другой палавінкі, з гэтай самай выратавалкі. Ерунда, метраў сем, не больш.

Ужо на другі дзень я злавіў на сабе погляд павагі. Арабскія хлопчыкі здароўкаліся са мной: HELLO, містэр, прывітанне, шэйх. Яны здавалі напракат квадрацыклы і прапаноўвалі віндсёрфінг, кайтынг, усе магчымыя снорклінгі і дайвінгі, а таксама марскі прагулкі пад парусамі.

Пасля некалькіх дзён адпачынку я заўважыў, што маладыя егіпцяне заходзяць у мора толькі па шчыкалатку, у крайнім выпадку – па калена ці па пояс. Потым да мяне дайшло, што абслуга – гэта дзеці пустыні і аазісаў, а калі і ёсць з берагоў Ніла, дык там жа кракадзілы. Значыць, яны проста не ўмеюць плаваць.

## Чаго рабіць не варта

Ноччу хадзілі лавіць месяцавую дарожку. Але гэта небяспечна, бо можна наступіць на марскога вожыка. Яго ядавітыя іголкі могуць нанесці сур’ёзныя траўмы. Пашкоджаны ўчастак нямее і пачынаецца запаленчы працэс. Адзін мой напарнік па більярдзе так і скакаў тыдзень на адной назе.

Ноччу ў басейне таксама небяспечна купацца. Якраз тады, каб вада не ператварылася ў кішачы палачкамі вадаём, засыпаюць забойную дозу дэзінфекуючых прэпаратаў і хімічных рэчываў. І купанне ў гэты час можа прывесці да апёкаў.

Але з намі нічога не здарылася, мы не пацярпелі ні ад вожыкаў, ні ад хлоркі. А можа ўдарныя дозы адрэналіну палохалі вось такіх начных насельнікаў Хургады.

**Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.**

ЗДАРЭННІ

# Кот прыцягнуў дадому вужа ў вёсцы ў Вілейскім раёне

ВІЛЕЙКА

Невялічкая вёска ля Латыгалі Вілейскага раёна. Гаспадар дома выйшаў на двор, падышоў да ката, які грэўся на сонцы, каб пагладзіць яго. Кот трымаў у зубах нешта чорненькае.

Калі гаспадар дома прыгледзеўся, аказалася, што ў лапах хатні драпежнік трымае амаль метровага вужа. Такую гісторыю расказаў нам наш чытач, які пажадаў застацца невядомым.

– Тое, што гэта вуж, а не змяя ядавітая, я здагадаўся па жоўтых вушках. Пасадзіў вужа ў слоік, хацеў пакінуць жыць дома, бо ён пасля сустрэчы з катом выглядаў кантужаным.

Але хутка ачуняў, і мы адпусцілі яго на волю.

Гэта не першы выпадак сёлета, калі кот цягне дадому жыўнасць.

– На рахунку хатняга любімца тры палявыя мышы і дзве птушкі. Праўда, за з’едзеных птушак кот атрымаў пад хвост, – смяецца гаспадар ката.

**Наталля ТУР.**

КОНКУРСЫ

## Віляйчане заваявалі Грын-пры на “Маёй мары”

ВІЛЕЙКА

У Мінску 16 мая праходзіў другі адкрыты конкурс маладых выканаўцаў “Мая мара”. Паспяхова выступілі ў ім прадстаўнікі Вілейскай школы мастацтваў.

**Віка Саванец** стала лаўрэатам першай ступені ў намінацыі 8-9 год. **Ірына Храмцова** паміж 14-15-гадовых стала лаўрэатам другой ступені. Вакальны ансамбль (квінтэт) стаў уладальнікам Гран-пры конкурсу.

Юныя артысты прымалі дыпломы і ўзнагароды. Ансамблю падарылі таксама вялікі гадзіннік з лагатыпам конкурсу і выявай Гран-пры і запрашэнне на бясплатны ўдзел у конкурсе “Беларускія таленты”.

Ірыну Храмцову члены журы запрашалі паступаць у каледж мастацтваў на эстрадны вакал. Пра гэта распавяла выкладчыца школы мастацтваў **Нэла Зайцава**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Найлепшы ўчастковы інспектар Міншчыны працуе ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

Свае прафесійныя навыкі, сілу і цягавітасць дэманстравалі ўчастковыя інспектары міліцыі і інспектары па справах непаўналетніх на аглядзе-конкурсе прафесійнага майстэрства.

Спаборніцтвы пачаліся са стралявой падрыхтоўкі. Затым міліцыянеры прадэманстравалі навыкі валодання табельнай зброяй, фізічную падрыхтоўку і валоданне прыёмамі самаабароны.

На наступны дзень адбылося тэставанне па веданні адміністрацыйнага і крымінальнага заканадаўства, крыміналістыцы і медыцынскай падрыхтоўцы.

Пераможцамі агляду-конкурсу сталі ўчастковы інспектар міліцыі Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў** і ўчастковы інспектар інспекцыі па справах непаўналетніх Крупскага РАУС **Анастасія Мазанік**.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Перамаглі ў конкурсе на фарфоравае вяселле

МЯДЗЕЛ

У райцэнтры 15 мая прайшоў конкурс на лепшую шматдзетную сям’ю. Удзельнічалі ў ім восем сем’яў.

Творча знаёмілі яны з сямейнымі традыцыямі. Дзяліліся поспехамі ў выхаванні дзяцей і тым, як спрыяюць здароваму ладу жыцця.

Таксама дэманстравалі зробленыя сваімі рукамі вырабы.

**Перамагла ў конкурсе сям’я Эдуарда і Алены Дангеляў з Нарацкага сельсавета. Пераможцы якраз сёлета святкуюць фарфоравае вяселле – 20 год сумеснага жыцця.**

Выхоўваюць яны чатырох дачушак: **Вераніку**, **Дыяну**, **Караліну** і **Алісу**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АФІЦЫЙНА

## Як падчас рыбалкі пазбегнуць удару токам

МАЛАДЗЕЧНА

Падчас рыбалкі ёсць небяспека паражэння электратокам. Выконвайце правілы, каб пазбегнуць небяспекі.

Для рыбакоў цяпер у крамах ёсць разнастайныя снасці, у тым ліку з вудзільнам ад 4 да 12 метраў. Сучасныя вуглепластыкавыя вудзільны – добрыя праваднікі току.

Звычайна токам б’е, калі лёска ці вуда дакранаюцца да праваду лініі электраперадачы. Пры гэтым траўму атрымлівае не толькі рыбак, але і тыя, хто стаіць побач. Рыбалка вельмі небяспечная каля ліній электраперадач падчас навальніцы, таму што вудзілішча можа спрацаваць як маланкаадвод.

Перад пачаткам рыбалкі азірніцеся. Выбірайце месцы воддаль ад паветраных ліній электраперадач, трансфарматарных падстанцый. Несці вудзільна трэба, апусціўшы паралельна зямлі. Калі вы хочаце падарыць вуду дзіцяці, раскажыце яму, дзе і калі ёй нельга карыстацца.

Абавязкова рабіце заўвагу тым, хто парушае правілы паводзін каля энергааб’ектаў, асабліва дзецям. Вы гэтым можаце выратаваць жыццё!

**Юрый ЯЎСЦІГНЕЕЎ, інспектар маладзечанскага аддзялення “Энерганагляду” прадпрыемства “Мінскэнерга”.**

## Папярэдзьце пра няўзгодненыя работы на дарозе

Паважаныя жыхары Маладзечаншчыны!

Калі вы сталі сведкам ці відавочцам правядзення земляных работ на праезнай частцы дарогі, праінфармуйце Дзяржаўтаінспекцыю Маладзечна і аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС па тэлефоне **76-68-41**, **77-16-56** ці **102**. Званок бясплатны.

Гэтыя работы могуць быць няўзгодненыя ва ўстаноўленым законам парадку.

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ, начальнік аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

● ХАКЕЙ

# Маладзечанцы ездзілі ў Чэхію падтрымаць Беларусь на хакеі

МАЛАДЗЕЧНА

Трое маладзечанцаў **Аляксандр Альфер, Стас Абрамовіч і Андрэй Козік** пазычылі народныя строі ў Мінскім абласным драмтэатры і накіраваліся ў Чэхію, каб на свае вочы пабачыць гульню зборнай Беларусі.

Расказвалі "Рэгіянальнай газеце", што адбываецца ў Празе і ў горадзе Остраве наўпрост па тэлефоне, перыядычна дасылаючы паведамленне, што ў Чэхіі вельмі слабы інтэрнэт.

На першае пытанне, як праходзіць чэмпіянат у Чэхіі, Аляксандр адказаў:

– А што адбываецца? Усе п'юць. І вельмі мала інфармацыі пра тое, што ў краіне ідзе чэмпіянат свету.

Хлопцы з Маладзечна наведалі матч з Фінляндыяй, а вось на матч супраць Канады не трапілі:

– Білет каштуе 100 еўра, надта "тлуста", каб ісці на гульню.

– Дарэчы, – дадае Стас, білеты на матчы зборнай Беларусі каштавалі 15 еўра, на зборную ж Расіі або Чэхіі – 100.

Той, хто ўважліва глядзеў трансляцыю матча супраць зборнай Фінляндыі, маглі заўважыць сумнага беларуса ў народным строі, што сядзеў, падпёршы рукой бараду, пасля таго, як наша каманда саступіла. Гэта і быў Аляксандр:

– Народныя строі пазычылі ў Мінскім абласным драматычным тэатры.

– Хацелі выглядаць каларытна і аднолькава, – дадае Андрэй.

– Увогуле, беларусаў у Чэхіі было шмат. Падтрымлівалі адзін аднаго, пазнавалі.

**– Як там ставяцца да беларускай зборнай?**

– Цудоўна, усе называюць беларусаў годным сапернікам.

– Пра нашых хакеістаў даводзілася чуць толькі добрае. Нават у фан-зоне пасля матча з Нарвегіяй адзін славак сказаў, што наша зборная больш вартая выхаду ў плэй-оф, чым іх славацкая зборная.

**– Ад краіны якія ў вас уражанні?**

– Магу сказаць, – кажа Аляксандр, – што добра тут паесці каштуе каля 10 еўра. У нас у магазінах прадукты і то даражэйшыя. І паўтаруся, вельмі мала інфармацыі пра тое, што праходзіць чэмпіянат свету.

– Так, – кажа Андрэй, – у гэтым сэнсе мне больш спадабаўся горад Острава. Гэта не такі вялікі горад, як Прага. У Празе чэмпіянат згубіўся сярод мільёнаў турыстаў. А ў Остраве можна было знайсці таварыша па інтарэсах незалежна ад нацыянальнасці.

Стасу наогул арганізацыя чэмпіянату ў Празе не спадабалася:

– Па-першае, лядовую арэну знайсці нерэальна. Усе абвесткі ў метро на чэшскай. Па-англійску мала хто разумее. Здзівіла тое, што фанзона працавала толькі да 9 вечара. Матч яшчэ ідзе, а ў фан-зону ўжо нікога не пускаюць.

На матчы, як сказаў Стас, з не топавымі зборнымі, заганялі шмат школьнікаў.

– І што асабліва здзівіла, у продажы не было ніякай сувенірнай прадукцыі.

Падсумоўваючы размову, хлопцы былі аднагалосныя ў меркаванні, што ў Чэхію ехаць аднaзначна варта.

Наталля ТУР.



Фота забяспечана Аляксандрам АЛЬФЕРАМ.

**Маладзечанцы ў нацыянальных строях, злева направа, Андрэй Козік, Стас Абрамовіч і Аляксандр Альфер не проста паехалі падтрымаць зборную Беларусі. У Чэхіі паспелі пазнаёміцца і з трэнерам мінскага "Дынама" Любамірам Паковічам.**

## Таксісты абяцалі бясплатна вазіць ветэранаў і Калюжнага

МАЛАДЗЕЧНА

14 мая адбыўся матч паміж зборнымі Беларусі і Канады ў межах чэмпіянату свету па хакеі.

Маладзечанскія заўзятары сабраліся ў адной з кавярняў, каб паглядзець, як беларусы "наваляюць канадцам".

Аднак ужо пасля 27 секунды першага перыяду, калі першая шайба трапіла ў вароты беларусаў, у заўзятараў хакея закраўся сумнеў, што зыход матча можа быць на карысць нашай зборнай.

Той, хто да гэтага часу шчаслівы чалавек і не ведае, чым скончыўся матч, паведамляем: лік матча Беларусь-Канада 9:0 на карысць канадцаў.

Права каментаваць матч пакінем прафесіяналам, мы ж пакінем тут цытаты 15 маладзечанскіх таксістаў, якія шчыра, да апошняй хвіліны, верылі ў тое, што хаця б адну шайбу Беларусь адквітае.

***

Першы перыяд. Лік на экране 4:0.

– Вось-вось цяпер пачнуць забіваць толькі беларусы.

***

– 7:0 лік будзе, паспрачаемся?

– Я кажу, будзе 11:0.

– Не, павінна быць да 10.

– Але больш за 8:0.

– Паспрачаемся на абед?

***

Пасля ліку 7:0 той, хто прайграў у спрэчцы, збіраецца сыходзіць:

– Эх, за катлету Радзіму прадаў.

***

– Адабраць у Калюжнага трохпакаёвую кватэру ў Мінску! Ва Узду яго жыць!

***

– Хлопцы, на наступнае 9 мая абвяшчаем акцыю: возім бясплатна ветэранаў і Калюжнага.

***

– Глядзіце, каб ён з такой гульнёй праз год у Дынама-Маладзечна не гуляў!

***

– Цікава, а калі б у канадцаў аднаго варатара пакінуць, нашы б перамаглі?

***

– У наступны раз выходзім дзесяць на пяць. Можа, тады шанец на перамогу з'явіцца.

– І абавязкова, каб у нашых варотах два варатары стаялі!

***

– Трэба было ўсёй камандай тупа ў вароты легчы і ляжаць.

– А тут раптам нехта ўключае тэлевізар у трэцім перыядзе: "Ну, трэба ж, Беларусь-Канада 0:0.

***

Фінальны лік матча 9:0. Цуд не адбыўся. Беларусь на чэмпіянаце свету займае 7 месца. Гледачы-заўзятары гучна смяюцца і разыходзяцца па дамах. Пройгрыш зборнай на настрой не паўплываў.

Наталля ТУР, Настасся РОЎДА, Зоя ХРУЦКАЯ.

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## Гульцы "Смаргоні" закалацілі "Оршы" шэсць галоў

СМАРГОНЬ

**Перамога ў папярэднім туры над "Бярозай-2010", лепшы старт у чэмпіянаце за апошнія пяць год.**

Усё гэта матывавала смаргонцаў на пераможны вынік супраць "Оршы" ў дамашнім матчы 17 мая.

Аршанцаў з цяжкасцю можна назваць моцным серадняком. Але трэнеры папярэджвалі гульцоў, што не варта недаацэньваць саперніка.

У пачатку сустрэчы госці стараліся гуляць на роўных з нашай камандай. Але "чырвона-чорныя" паступова пачалі забіраць гульню пад свой кантроль. Ужо на 20-й хвіліне **Сяргей Бандарэнка** магутна "стрэліў" з-за межаў штрафной. Мяч трапіў у перакладзіну.

А на 31-й хвіліне **Сяргей Крот** адкрыў лік. Ён скарыстаўся памылкай варатара аршанцаў, які адбіў мяч прама на нагу нападаючаму "Смаргоні".

Перад самым перапынкам госці атрымалі яшчэ два галы. Дублем адзначыўся **Яўген Калінін**. На 42-й хвіліне пасля навесу галавой пераправіў мяч у сетку гасцей, а на 45-й хвіліне выйшаў адзін на адзін з галкіперам і тэхнічна перакінуў мяч праз яго.

У другім тайме малюнак гульні абсалютна не змяніўся. Атакавалі гаспадары, госці абараняліся. За ўвесь другі тайм аршанцы ўмудрыліся нанесці ў створ нашай каманды ўсяго толькі адзін удар.

На 63-й хвіліне **Аляксандр Талканіца** дакладным пасам вывеў на ўдарную пазіцыю **Дзмітрыя Жданка** – 4:0.

На 66-й хвіліне на поле выйшаў **Уладзімір Казко**. У канцы матча ён за дзве хвіліны аформіў "дубль". Галы атрымаліся амаль аднолькавыя. Атрымаўшы мяч, Уладзімір абодва разы класнымі ўдарамі з лініі штрафной плошчы прымусіў капітуляваць галкіпера аршанцаў.

Вынік – 6:0 на карысць "Смаргоні". За першыя пяць тураў гэта самая буйная перамога ў цяперашнім чэмпіянаце. А "чырвона-чорныя" паўтарылі свой найлепшы пераможны вынік у першай лізе. У далёкім 2004 годзе, з такім жа лікам 6:0, абыгралі калінкавіцкую "Вертыкаль".

Уладзімір АМБРАСЕВІЧ, Смаргонь.

● НАВІНЫ

## Юныя футбалісты гулялі ў Ашмянах

АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ, ВАЛОЖЫН

У Ашмянах 7 мая адбыўся турнір на прызы Беларускай федэрацыі футбола сярод камандаў 2005-06 гадоў нараджэння, інфармуе футбольная акадэмія Fair Play.

У турніры прынялі ўдзел восем камандаў, у тым ліку з Валожына, Маладзечна, Ашмянаў, Смаргоні. Найлепш з нашага рэгіёна выступіла каманда Маладзечна-1. У матчы за трэцяе месца яна абыграла юных футбалістаў з Валожына з лікам 2:0.

## Лідзіруе ў спартакіядзе каманда Энергазбыту

ВІЛЕЙКА

Па выніку шасці відаў у круглагадовай спартакіядзе сярод працоўных калектываў Вілейскага раёна лідзіруе каманда Энергазбыту. На другім месцы – прадстаўнікі водаканала, на трэцім – ЖКГ.

## ДЮСШ-4 зноў гуляе ўнічыю

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Другая запар нічыя з лікам 1:1 на рахунку ДЮСШ-4 з Маладзечна. У другім туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 17 мая маладзечанцы ў гасцях згулялі ўнічыю з "Лівадыяй-Юні" 1:1.

Аж восем галоў пабачылі гледачы ў матчы "СМІаўтатранс" (Смалявіцкі раён) і "Забудовы-Буд". Каманда з Чысці ў гасцях была мацнейшая 5:3. Хет-трыкам адзначыўся **Аляксандр Працкевіч**.

Вілія дома абыграла 1:0 "Зорку" з Пухавіцкага раёна.

– Гульня выдалася цяжкая, каманда сапернікаў маладая, – расказвае прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Бліжэй да сярэдзіны першага тайма гол у нас забіў **Віктар Сяліцкі**. І ўдалося пераможны лік захаваць.

У гульні было шмат барацьбы, таму яшчэ адзін вынік матча сумны для віляйчан – у іх складзе шмат траўмаваных.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Камент-эксперт



**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Паклікаў двух знаёмых, каб пазбавіцца ад цела. Падрабязнасці забойства 12 мая ў Маладзечне**

Не Маладзечна, а Чыкага. Страшна жыць, спадарства. Цяпер буду азірацца, а то раптам каго выпадкова пакрыўджу, а ён мне нож у спіну. Зусім падурэлі людзі. ***Баязлівая.***

**Ці праўда, што па-беларуску не кажуць "добрай раніцы"**

Вам няма чым заняцца. Нельга, бачыце вы, казаць "Добрай раніцы", бо ў беларусаў толькі "Добры дзень". А калі раніца сапраўды добрая? А калі вечар добры? ***Лёнька Панцялееў.***

**Валожынскі трактарыст замест таго, каб лячыць зубы, два месяцы жыў у Мінску з дзяўчынай. А яго шукала ўся міліцыя**

Тое самае пачуццё, калі валожынскія трактарысты жывуць весялей за мяне(( ***Геральд.***

**На месцы павільёна каля былой крамы "Махаон" у Маладзечне паставілі лаўкі**

Хутка наогул павільёнаў не застанецца. Спачатку піва забаранілі прадаваць, цяпер наогул зносяць. Застануцца адны сеткавыя крамы з адным і тым жа асартыментам. А я так люблю звычайныя ларкі. Сумна. ***Ажына.***

А на чыгуначным вакзале "Півін" зачынілі... Усё робіцца дзеля здароўя народа :-) ***Nifeus.***

**Новы гаспадар "Маладзечнапіва" можа замяніць піва на сідр**

Сумная навіна. Маладзечанскае піва, апошняе ў Беларусі, што выраблялася па класічных тэхналогіях савецкага часу і адпавядала закону аб "чысціні піва". Гэта было амаль жывое піва, хоць на смак і саступала іншым, але страўнік, печань і ныркі аддавалі яму перавагу перад іншымі маркамі. І, галоўнае, не было "адхадняку" пасля яго ўжывання. Адна надзея – на прыватныя півабарні жывога піва. ***Вася.***

**Першыя клубніцы з'явіліся на рынку ў Маладзечне**

Кожныя выхадныя бываю на рынку – не бачыла клубніц. Учора спецыяльна пайшла, каб купіць. Нідзе не знайшла! Можа, іх настолькі мала, што раскупляюць хутка? Ды і смаку пакуль у іх ніякага, як мыла! У канцы мая – пачатку чэрвеня яны з прыемным водарам, водарам лета! Вось такія клубніцы хочацца купляць і есці. ***Пакупнік.***

**Удзельнікі экавелапрабегу ў Вілейцы пабачаць ачышчаную Пляснянку**

Няхай бы праехалі па Пляснянцы ад каналізацыйнай станцыі і вышэй. Проста жах. ***Анюта.***

**9 мая маладзечанцы святкуюць у цэнтры горада (Фотарэпартаж)**

Свята было добрае. У парку шмат пляцовак. І канцэрт з адпаведнай тэматыкай. І сумна, і радасна было ў гэты дзень. Атмасфера была напоўненая гонарам за нашых прадзедаў і падзякай ім ад нашага пакалення. І ўсё гэта дзякуючы рабоце арганізатараў свята. На маю думку, усяго ў меру. Дзякуй за работу. ***Асечка.***

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | 5 | | | | |
| | 5 | | | 6 | 3 | 4 | | |
| 7 | | | | | 1 | | | 3 |
| | 6 | 5 | | | | 3 | | 8 |
| | | | 8 | | 5 | | | |
| 1 | | 8 | | | | 5 | 4 | |
| 2 | | | 5 | | | | | 9 |
| | | 9 | 6 | 2 | | | 8 | |
| | | | | 9 | | 2 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
23 мая – у 11:20
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі "**Дом**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
23 мая – у 15:45
24 мая – у 11:40
Цана білета: 30 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (Расія, Украіна, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24 мая – у 16:25
Цана білета: 45 000 рублёў

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія...**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
22 мая – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, трылер "**Звар'яцелы Макс: Дарогі лютасці**" (3D, Аўстралія, 2015, з 16 год)
23 мая – у 22:10 (цана білета: 60 000 рублёў)
24 мая – у 21:20
26 мая – у 21:30
27 мая – у 19:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Прыстойныя людзі**" (Расія, 2015, з 16 год)
22 мая – у 19:30
23 мая – у 20:20
25 мая – у 21:30 (цана білета: 45 000 рублёў)
27, 28 мая – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)

Фантастыка, дэтэктыў "**Зямля будучыні**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
22 мая – у 17:00
23 мая – у 13:10, 17:50
24 мая – у 13:50, 18:50
25, 26 мая – у 18:50
27 мая – у 17:00 Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Арганціна, 2015, без узроставых абмежаванняў)
28 мая – у 17:00 Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, баявік "**Разлом Сан-Андэрс**" (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
28 мая – у 19:30 Цана білета: 55 000 рублёў

ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ

Анімацыя "**Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
23 мая – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Цішэй, бабуля спіць**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
24 мая – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**", (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22, 23 мая – у 17:00
24 мая – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, 2014, з 16 год)
22, 23 мая – у 19:00
24 мая – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік, жахі "**Ваўкі**" (Канада, Францыя, 2013, з 16 год)
24 мая – у 19:30
27 мая – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
22, 23, 28 мая – у 21:00
25, 26 мая – у 21:15
Цана білета: 3 000 рублёў

Жахі "**Сінявір**" (ЗША, Украіна, 2013, з 16 год)
22, 23 мая – у 21:30
25 мая – у 21:45
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Вось дык сяброўка**" (Італія, 2014, з 16 год)
26 мая – у 21:45
28 мая – у 21:30 Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма, крымінал "**Ровер**" (Аўстралія, 2013, з 16 год)
26 мая – у 19:00
27 мая – у 21:00
28 мая – у 19:00 Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл.: **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 мая – у 17:30
23, 24 мая – у 18:00
27, 28 мая – у 20:00 Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастыка, драма "**Пасвечаны**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22, 23, 24 мая – у 20:00
27 мая – у 18:00
28 мая – у 17:30 Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Кот Гром і зачараваны дом**" (ЗША, Бельгія, без узроставых абмежаванняў)
23, 24 мая – у 14:00 Цана білета – 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Трылер, баявік "**Звар'яцелы Макс: Дарога лютасці**" (3D, Аўстралія, з 16 год)
22 мая – у 18:00
23 мая – у 21:30
24 мая – у 21:00
27 мая – у 19:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Ваенная драма "**Дарога на Берлін**" (2D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 мая – у 20:30
24 мая – у 19:00 Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
23 мая – у 13:00
24 мая – у 15:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
23 мая – у 15:00
24 мая – у 13:00 Цана білета – 30 000 рублёў

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія**" (3D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
23 мая – у 17:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Камедыя "**Адной левай**" (2D, Расія,)
23 мая – у 19:30
24 мая – у 17:00
27 мая – у 21:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Трылер, баявік "**Разлом Сан-Андрэас**" (2D, ЗША, з 16 год)
28 мая – у 18:00 Цана білета – 45 000 рублёў

Фантастыка, дэтэктыў "**Зямля будучыні**" (2D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 мая – у 20:30 Цана білета – 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях) Марсэль Берк'е-Мерыньє, *Анатоль Курбскі*
26 мая, аўторак, – у 19.00

"**Псіхааналітык для псіхааналітыка**" (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
28 мая, чацвер, – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**
*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by http://theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 22-28 МАЯ

**Авен.** Імпульсіўнасць можа разбурыць сямейную ідылію. Вас не будуць разумець блізкія людзі, таму многія могуць адвярнуцца. Усё наладзіцца, калі будзеце трымаць пачуцці ў сабе.

**Цялец.** Зоркі раяць вам трымаць вочы і вушы адкрытымі для новай інфармацыі – гэта ўзбагаціць вас новымі ведамі. А яшчэ чакаюць сюрпрызы. І не важна з плюсам ці мінусам, але яны ўдыхнуць у вас свежае паветра.

**Блізняты.** Не хавайцеся ад уласных праблем. Ёсць рэчы, разабрацца з якімі можаце толькі вы і ніхто іншы.

**Рак.** Нейкі дзень прынясе сустрэчу з кімсьці вельмі важным, хто паўплывае на вашы рашэнні адносна сям'і, дома.

**Леў.** Не абяцайце больш, чым зможаце зрабіць. Калі магчыма, перакладзіце свае абавязкі на некаторы час на чужыя плечы.

**Дзева.** Не хапайцеся за тысячу спраў аднача́сова, больш выгадна выбраць нешта адно і на гэтым засяродзіць усю сваю ўвагу і намаганні.

**Шалі.** Каб не зведаць пачуцця глыбокага расчаравання, не займайцеся самакапаннем. Адпусціце тое, што было, падзякуйце ўсяму добраму, што прыйшло да вас, і жывіце сённяшнім днём. Вучыцеся радавацца жыццю.

**Скарпіён.** Вы раздражняецеся, а ўсё з-за таго, што вам пачынае здавацца, што вы няправільна выбралі другую палавінку. Але ўсё зусім не так. І не трэба думаць, што нехта некаму павінны цалкам падпарадкоўвацца.

**Стралец.** Калі прымаеце важныя рашэнні, якія тычацца вашага жыцця, то не варта прыслухоўвацца да парадаў сяброў ці сваякоў. Вы ведаеце ўсе тонкасці, нюансы і самі павінны прыйсці да правільных высноў.

**Казярог.** Поспех чакае вас пры нетрадыцыйным падыходзе да вырашэння жыццёвых праблем. З'явяцца людзі, пры дапамозе якіх адкрыюцца новыя перспектывы.

**Вадалей.** Вас чакаюць прыемныя перамены да лепшага. Не дазваляйце таму, што наканавана вам лёсам, прашмыгнуць міма. У вас праявіцца здольнасць прышчэпліваць тое, што вы захочаце. Усе жаданні павінны здзяйсняцца.

**Рыбы.** Важна для вас – гэта зрабіць правільныя высновы. І тады адчыняцца закрытыя, схаваныя дзверы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

**23 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 / +16 | | +8 / +18 | | +11 / +17 | | +9 / +11 | |
| | 747 | ↙ 6 | 743 | ↖ 4 | 743 | ↙ 5 | 743 | ← 9 |
| Вільня | +10 / +16 | | +9 / +17 | | +11 / +16 | | +8 / +19 | |
| | 757 | ↓ 2 | 752 | ↑ 3 | 753 | ↘ 3 | 753 | ↖ 7 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.07
Захад 21.13
Даўжыня дня 16.06

Усход 10,19
Захад 00.42
Квадра 1




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ (КУПА)**

Мінімальная тэмпература -2,3°С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +28,3 °С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,2 мм у 2008 годзе
Назіранні за 23 года. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● У камандзе "Маладзечна ДЮСШ-4" лепей быць гульцом з досведам ці маладым? Разважаюць 36-гадовы Сяргей Дараховіч і 18-гадовы Уладзіслаў Фядотаў у наступным нумары "РГ".



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Як вы пазнаёміліся са сваёй другой палавінкай?



**Алег Янцэвіч, прадпрымальнік, Маладзечна:**

– Пазнаёміліся падчас дзелавой канферэнцыі ў Маскве. Я адразу зразумеў, што гэта мой чалавек. Некаторы час кантактавалі праз сацыяльныя сеткі, бо жылі ў розных гарадах. Пасля яна пераехала ў Мінск, затым і я – пачалі сустракацца.



**Воля Аскірка-Савіцкая, тэхнолаг, Смаргонь:**

– Пазнаёміліся з мужам у сацыяльных сетках. Спачатку абмяняліся нумарамі тэлефонаў, пачалі ператэлефаноўвацца. Потым вырашылі сустрэцца – праз некаторы час зразумелі, што мы ўжо пара.



**Ганна Нагайцава, псіхолаг, Маладзечна:**

– Пакуль не сустрэла сваю другую палавінку. Лічу, што ідэальнае знаёмства праз знаёмых. Так больш упэўненасці, што пазнаёмішся з добрым чалавекам. Хочацца верыць, што сябры і знаёмыя не параяць дрэннага.



**Антон Шабуневіч, фатограф, Маладзечна:**

– Пазнаёміўся з будучай жонкай, калі прыехаў на ўрачыстасць на 9 мая з Масквы ў Мінск. Праз месяц яна прыехала да мяне ў госці. Яшчэ праз месяц ажаніліся. А праз год у нас нарадзіўся сын, нядаўна яму споўніўся год. Цяпер чакаем яшчэ адно дзіця. Калі сустракаеш свайго чалавека, адразу ўсё разумееш.



**Настасся Васількова, выкладчыца англійскай і лацінскай моў, Маладзечна:**

– Пазнаёміліся на дні нараджэння ў агульнага сябра. Адчулі сімпатыю адразу. Спачатку сябравалі два гады, потым сустракаліся, летась ажаніліся. 24 мая ў нас першая гадавіна сямейнага жыцця.



**Настасся Каркоцкая, аператар паштовай сувязі, Вілейка:**

– Нечакана пазнаёмілася са сваёй другой палавінкай. Гуляла з сяброўкай па вуліцы, сустрэлі яе знаёмага з сябрам – так і адбылося першае знаёмства. У той момант нават не думала, што буду сустракацца са знаёмым маёй сяброўкі. Доўга сябравалі, пасля пачалі сустракацца, праз пяць гадоў ажаніліся.



**Ягор Пінкевіч, праграміст, Маладзечна:**

– Пазнаёміўся са сваёй дзяўчынай праз сацыяльныя сеткі. Першым напісаў ёй, прапанаваў сустрэцца. Яна вельмі цікавая субяседніца і вельмі прыгожая дзяўчына. Лічу, што мне вельмі пашанцавала з ёй, ужо больш за два гады разам.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 21 (1047) 22.05.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 670. Падпісана ў друк у 9.00 21.05.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.